№ 31 (868) 20 жніўня 2014

www.nn.by




# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## На Маскву!

Пасля ўвядзення Расіяй эмбарга на пастаўку прадуктаў з ЕС і ЗША ў расійскіх крамах з'явіліся крэветкі краіны паходжання «Беларусь».
**Старонка 4**



## Шчыгрынавая скура беларускай вёскі

Рэпартаж з каталіцкай парафіі Друя. Старонка 10.

**Фельетон**

### Новае дасягненне Аляксандра Лукашэнкі

Кіраўнік дзяржавы дасягнуў пенсійнага веку. **Старонка 2.**



**Афрыка**

### Пра «смерць тубабу» і пагрозу Эболы

Уладзімір Бруй прапусціў Афрыку праз сябе. **Старонка 6.**



**Кадры**

### Якабсон сышоў з КДК пасля смерці жонкі

Пяць фактаў пра высокага чыноўніка. **Старонка 3.**



**Гучная справа**

### Ганна Шарэйка арыштаваная

Сенатар, маці яек «Ганна» пагарэла на закупцы кармоў. **Старонка 5.**



**Войска**

### Нататкі рэзервіста

Як служылася? Піша Аляксандр Пятроўскі. **Старонка 13.**



# Новае дасягненне Аляксандра Лукашэнкі

Кіраўнік дзяржавы дасягнуў пенсійнага веку. **Фельетон.**



Шаноўнае спадарства! У хуткім часе нас чакае самая важнецкая падзея ў жыцці нашага грамадства. Якая? 30 жніўня 2014 года мы будзем урачыста праводзіць на пенсію нашага дарагога і нястомнага кіраўніка дзяржавы Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку.

Думаецца мне, што на пенсію Аляксандр Рыгоравіч не пойдзе, а працягне працаваць на сваёй пасадзе яшчэ не адзін дзясятак год, толькі б ягонае здароўе гэтаму паспрыяла.

Але ж адзначыць гэтае яго дасягненне (дасягненне пенсійнага веку) трэба, і не проста так, віншавальнымі паштоўкамі, але і з падарункамі.

Тут павінны сказаць сваё важкае слова нашы дэпутаты, бо ў іх руках заканадаўчая ўлада. Я ім зараз нагадаю, якія пастановы яны павінны тэрмінова прыняць. А то так запрацаваліся ў мяккіх крэслах (а хто і прыдрамаў), што могуць і прапусціць святочную падзею.

1. Пенсія Аляксандра Рыгоравіча павінна складаць не менш за дзесяць тысяч даляраў у месяц. Больш можна, а менш — ні ў якім разе. Гэта і не такія вялікія грошы, многія хакеісты атрымліваюць значна больш.

2. Прысвоіць Аляксандру Рыгоравічу, як Галоўнакамандуючаму ўзброенымі сіламі нашай краіны, воінскае званне «маршал Рэспублікі Беларусь».

3. Дэпутаты абедзвюх палатаў на агульным сходзе павінны прыняць закон, згодна з якім Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, як першы прэзідэнт нашай рэспублікі, за асаблівыя заслугі, у якасці выключэння, становіцца пажыццёвым прэзідэнтам да тае пары, пакуль сам па стане здароўя або па іншых прычынах не адмовіцца ад пасады.

І мы ашчадзім сотні мільёнаў рублёў, якія, лічы, на вецер выкідваюцца на чарговых прэзідэнцкіх выбарах, якія заўсёды з лёгкасцю выйграе Аляксандр Рыгоравіч.

Тут хачу некалькі слоў сказаць пра спадарыню Ярмошыну. Мне яе шкада да слёз, бо яна са сваім штабам чэсна падлічвае галасы. А наша апазіцыя кожныя выбары несправядліва папракае яе, што галасы падтасавалі. А гэта ж проста атрымліваецца такі вялікі працэнт галасоў за Аляксандра Рыгоравіча, што няёмка агучваць — за восемдзесят працэнтаў. Бывалі нават выпадкі, што сам прэзідэнт раіў ёй зменшыць гэты працэнт.

Канечне, калі закон пра пажыццёвае прэзідэнцтва будзе прыняты, ва ўсіх апазіцыянераў перахопіць на нейкі час дыханне... Але крыху паплачуць, вып'юць пляшку-другую і, я так думаю, супакояцца. Бо добра ведаюць, што сярод іх будучага кіраўніка дзяржавы няма.

Значыць, дэпутаты прымуць закон. Калі ж браць усіх нас, беларусаў, дык прапаную пусціць шапку па коле. Хай даюць усе, ад бамжоў да алігархаў «у законе» і «ценявікоў», хто колькі зможа — і сабраць грошы на двух рахунках: рублёвым і валютным на імя Аляксандра Лукашэнкі. Каб наш прэзідэнт, калі выйдзе на пенсію, меў крыху запасу «на чорны дзень». Бо ў яго тры сыны, ды і ўнучкі ў хуткім часе адна за адной будуць выходзіць замуж... І кожнай у пасаг трэба даць не менш за сто тысяч даляраў. Алігархі павінны ў добраахвотна-прымусовым парадку адваліць у гэтую шапку да дзевяноста працэнтаў гадавога прыбытку. Я думаю, што супрацоўнікі КДБ ім у гэтым дапамогуць.

Праўда, нядобразычліўцы кажуць сцішаным голасам на кухнях, што ў Аляксандра Рыгоравіча крыху ёсць за мяжою валютнага запасу. З'явіўся ён у першы год прэзідэнцтва, калі распрадавалася ўзбраенне былога Саюза, вось так... Асабіста я ў гэтыя байкі не веру. Бо ў той час стаялі заводы, шахцёры грукаталі каскамі перад Домам урада. Аляксандр Рыгоравіч на такое пайсці не мог...

Тут многія крычаць, што Аляксандр Рыгоравіч апошні дыктатар Еўропы, маўляў — неабмежаваная ўлада! А як інакш?! Зрабіць так, каб кіраўнік краіны не мог зняць з пасады міністра, які каторы год, як кажуць у народзе, «мышэй не ловіць». Трэба ісці на паклон да дэпутатаў, а тыя за яго заступяцца. Як кіраваць краінай? Асабіста я лічу, што прэзідэнту трэба даць яшчэ больш правоў. Каб ён мог чыноўніка, якога злавілі на хабары, большым за мільён даляраў, без суда ў той жа дзень садзіць у турму год на пятнаццаць. А то суды, адвакаты... А там глядзіш — ён праз год-другі разгульвае на волі...

Цяпер Аляксандр Рыгоравіч зможа крыху разбагацець, бо будзе працягваць працаваць, атрымліваць пенсію, ну і мы ўсім кагалам падкінем яму на рахунак, які, дарэчы, будзе пастаянна адкрыты да тае пары, пакуль ён не сыдзе з пасады...

Але замену Аляксандру Рыгоравічу рыхтаваць трэба, бо працягласць жыцця ў беларускіх мужчын не вельмі ўражвае, многія нават да сямідзесяці не дацягваюць.

Днямі Аляксандр Рыгоравіч у адной размове сказаў, што ў рэспубліцы ёсць каля трыццаці чалавек, з якіх хтосьці праз нейкі час заменіць яго... А пакуль тое, пажадаем яму моцнага здароўя і поспеху ў працы на пенсіі!

**Павел Савоська, былы старацель, Мінск**

А калі сур'ёзна: якая пенсія будзе ў Лукашэнкі? **Старонка 4.**

# Колькасць сілавікоў будзе засакрэчана

У Беларусі **закрылі** для грамадскасці **звесткі** аб штатнай колькасці работнікаў «праваахоўных і іншых» дзяржаўных органаў.

Раней такія звесткі раз на 2 гады публікавалі ў спецыяльным бюлетэні Белстата. Больш не будуць. Пастанова Саўміна «Аб службовай інфармацыі абмежаванага распаўсюду» датуецца 12 жніўня.

Як лічыць юрыст з адной з дзяржаўных структур, які пажадаў застацца неназваным: «Гэта стала наступным крокам пасля знакамітых зменаў заканадаўства аб надзвычайным становішчы і органах дзяржаўнай бяспекі».

Нагадаем, каля тыдня таму быў прыняты ўказ №402 «Аб захадах па забеспячэнні рэжыму надзвычайнага становішча», згодна з якім супрацоўнікі гэтых органаў атрымалі шырокія паўнамоцтвы.

Юрыст лічыць, што і агрэсія Расіі супраць Украіны магла стаць дадатковым штуршком для прыняцця пастановы. Маючы інфармацыю аб штатнай колькасці органаў дзяржбяспекі і міліцыі, патэнцыйнаму праціўніку лягчэй пралічыць колькасць сілавікоў, патрэбную для эфектыўнага правядзення падрыўных аперацый.

У той жа час, інфармацыя пра колькасць работнікаў праваахоўных органаў — грамадска важная. Людзі ж кормяць дзяржаву, значыць, яны павінны ведаць, колькі і каго. Інакш дзяржава можа разрасціся як не мае быць.

Паводле нядаўніх звестак, у Беларусі на 100 тысяч жыхароў прыпадала 1044 міліцыянтаў. Гэта значна болей, чым у еўрапейскіх дзяржавах.

**Вольга Гарапучык**

## Сціслa

### Меркель прыедзе ў Кіеў перад Днём незалежнасці

Канцлерка Германіі Ангела Меркель прыбудзе ў Кіеў для перамоваў з украінскімі ўладамі. Візіт незвычайны: ён адбудзецца 23-га, а 24-га Украіна святкуе Дзень незалежнасці. Такім чынам Меркель падтрымае ўкраінцаў. Агрэсія ў Данбасе працягваецца, Расія гоніць туды танкі і «Грады». Загінула ўжо больш за 2500 чалавек. Адных толькі ўкраінскіх вайскоўцаў забіта больш за 600.

### Начальніка мазырскай міліцыі звольнілі за п'яную язду

Начальнік Мазырскага РАУС Юрый Красюк за кіраванне транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення звольнены з органаў унутраных спраў. П'янага за рулём службовай машыны Красюка злавілі яшчэ 21 чэрвеня.

### 600 бутэлек кантрабанднай гарэлкі канфіскавалі ў Бабруйскім раёне

Партыя гарэлкі вытворчасці Расіі на суму Br30,4 млн была канфіскавана работнікамі ўпраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў КДК па Магілёўскай вобласці. Алкаголь знайшлі ў машыне 50-гадовага жыхара Паўночнай Асеціі. Паводле дакументаў, у машыне ён перавозіў піламатэрыялы, а насамрэч — гарэлку. За гэта грамадзянін Расіі атрымаў штраф 15 мільёнаў рублёў.

### Ад «Чыжоўка-Арэны» — да «Мінск-Арэны»

Чацвёртая лінія метрапалітэна Мінска будзе складацца з 12 станцый працягласцю каля 19 км. Лінія пройдзе ад «Чыжоўка-Арэны» да «Мінск-Арэны» праз раён Серабранка і Мінскі трактарны завод. Пра гэта паведаміў начальнік унітарнага прадпрыемства «Дырэкцыя па будаўніцтве Мінскага метрапалітэна» Павел Царун. Але тое будзе няхутка. Яшчэ і трэцяя лінія толькі на паперы праведзена, пра чацвёртую годзе і гаварыць.

ЛМ

## Апытанні на nn.by

**Ці хацелі б Вы мець і насіць вышыванку?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 896 | 81% |
| Не | 102 | 9% |
| Ужо маю | 108 | 10% |

Усяго прагаласавала 1106.

## Самае чытанае на nn.by за 13—19 жніўня

1 Пяць фактаў пра Аляксандра Якабсона
2 Новы хіт ЮТуба ў выкананні геніяльнага ўкраінскага дальнабоя: песня пра Расію
3 У Мінску залева спрычыніла транспартны калапс
4 Крыніцы ў стане баевікоў: Стралкоў-Гіркін паранены, стан — цяжкі. Цароў: Гэта няпраўда
5 Амонаўцы: «Мы — адзіны народ у Еўропе, які не ведае сваю гісторыю»
6 Калона з расійскай дапамогай з 280 КАМАЗаў рушыла ва Украіну
7 Наваросія «выбрала» сабе імперскі сцяг
8 Святар з-пад Мінска: Свастыку набіў у 90-х, калі быў прыхільнікам РНЕ
9 Вопратка з беларускімі арнаментамі заваёўвае Польшчу
10 Расейскі журналіст Дарэнка: Нам трэба Кіеў, а не Луганск

# Якабсон сышоў з КДК пасля смерці жонкі

**Аляксандр Лукашэнка звольніў старшыню Камітэта дзяржкантролю Аляксандра Якабсона. Паведамляецца, што ён будзе пераведзены на іншую пасаду. Выконваючым абавязкі старшыні КДК прызначаны Леанід Анфімаў.**

### Карэнны гамяльчук

Якабсону 63 гады, ён нарадзіўся ў Гомелі. Кажуць, што ў добрым гуморы нават мог расказаць пра жыццё на роднай вуліцы Лазневая Алея (цяпер ужо проста Лазневая). Потым вучыўся ў Беларускім інстытуце інжынераў чыгуначнага транспарту. Своеасаблівая кузня кадраў — адтуль выйшлі былы прэм'ер-міністр Сяргей Сідорскі, былы старшыня КДБ Леанід Ерын, міністр транспарту Анатоль Сівак. Адразу па сканчэнні ВНУ Якабсон накіраваўся на будаўніцтва Кандалакшскага марскога гандлёвага порта ў савецкае Запаляр'е (Мурманская вобласць).

Ён некалькі разоў прызнаваў, што, як гарадскі жыхар, не заўсёды разумеў спецыфіку працы на вёсцы і сутыкаўся з сельскагаспадарчай прадукцыяй толькі на ўзроўні гатовага тавару. Таму перш-наперш на пасадзе старшыні Гомельскага аблвыканкама ён занурыўся ў вывучэнне сельскай гаспадаркі.

### Кіраўнік «СНІДагорска»

Так у пачатку 1990-х часта называлі горад Светлагорск. Аляксандр Якабсон на працягу 11 гадоў узначальваў мясцовы гарвыканкам (1986—1996). «Там адбывалася маё сталенне, гэтыя гады я лічу найлепшымі ў сваім жыцці», — узгадваў Аляксандр Серафімавіч.

Малады горад Светлагорск, якому на той час не было і трыццаці гадоў (раней на гэтым месцы была вёска Шацілкі) стаў цэнтрам беларускай наркаманіі. Лічбы 1996 года казалі, што ў Светлагорску жыло амаль 800 ВІЧ-інфікаваных. Якабсон, натуральна, спрабаваў разганяць мясцовыя прытоны, але не заўсёды ўдавалася.

Дарэчы, граданачальнік падтрымліваў фінансава светлагорскую філію Гуманітарнага



ліцэя імя Якуба Коласа, якую ўзначальваў Тэльман Маслюкоў.

### Наступнік Вайцянкова

У 2001 годзе Аляксандр Якабсон узначаліў Гомельскі аблвыканкам. Узначаліў пасля любімага ў народзе кіраўніка Мікалая Вайцянкова. Пасля Чарнобыля Вайцянкоў быў сярод тых, хто рабіў усё, каб абараняць людзей ад дурных загадаў з Масквы і Мінска. Тысячы людзей яму за гэта асабіста ўдзячныя.

Таму Якабсону было няпроста заставацца на ўзроўні папярэдніка. Кажуць, што ў працоўным кабінеце Якабсона доўгі час былі толькі стол і шафа. Ужо ў апошні год кіравання кабінет значна павялічылі, усталявалі душавую кабінку, паставілі новую мэблю. Зболышага водгукі пра Якабсона як пра звычайнага выканаўцу, а не пра творчага работніка. Некалькі разоў ён пазбягаў сустрэчаў з еўрапейскім інвестарамі, баючыся, абы чаго не выйшла.

### Пострах чыноўнікаў

Апошнія амаль чатыры гады Аляксандр Якабсон працаваў на пасадзе старшыні КДК. З яе ён мог наводзіць страх на сотні арганізацый і ўстановаў краіны. Не дай Бог, дашлюць праверку!

Калі Лукашэнка прамаўляў «іменем рэвалюцыі», то наступная фраза найчасцей накіроўвалася да Якабсона, каб ягонае ведамства разбіралася з парушэннямі, безгаспадарлівасцю і неахайнасцю. У рабочых паездках кіраўніка дзяржавы Якабсон заўсёды быў дзесьці па правую ці левую руку.

### Сын у «Беларуснафце»

На мінулым тыдні ў Аляксандра Якабсона памерла жонка, Галіна Калатухіна. Магчыма, за гэтым і хаваецца адстаўка кіраўніка КДК.

Сын Аляксандра Серафімавіча Тарас Якабсон займае пасаду намесніка дырэктара «Беларуснафта-Нафтахімпраект», раней ён узначальваў Мінскае абласное аддзяленне кампаніі.

**Зміцер Панкавец**



# Сямён Домаш больш не дырэктар Гродзенскага гарбарнага завода

**«Я на такой працы, што мне не да размоваў».**

Былы старшыня Гродзенскага аблвыканкама, а таксама кандыдат у прэзідэнты ад апазіцыі на выбарах 2001 года Сямён Домаш больш не ўзначальвае «Гродзенскае вытворчае гарбарнае аб'яднанне». Яшчэ ў студзені яго на пасадзе гендырэктара змяніў Дзмітрый Саванец.

Мы патэлефанавалі Сямёну Домашу, каб даведацца, чым ён цяпер займаецца. «Ведаеце, у мяне цяпер такая праца, што мне не да размоваў», — па-беларуску адказаў ён ды паклаў слухаўку.

У прыёмнай гарбарнага завода нам сказалі: «А мы нічога не ведаем, куды яго перавялі».

Сямён Домаш на выбарах 2001 года меў вялікую падтрымку з боку моладзі і беларускамоўных. Ён без праблем назбіраў патрэбныя 100 тысяч подпісаў, але быў вымушаны зняцца на карысць лідара прафсаюзаў Уладзіміра Ганчарыка, якога апазіцыя абрала адзіным.

Перад выбарамі Домаш схапіў дзіўны інфаркт, яму зрабілі шунтаванне. Доўгі час ён папраўляў здароўе. А ў чэрвені 2002 сышоў з грамадскай дзейнасці. Перад выбарамі 2006 года Домаша прызначылі кіраўніком Гродзенскага гарбарнага завода. Яму цяпер 64 гады.

**ЗП**

# Аляксандр Мілінкевіч: Я малады як ніколі

**Палітык не выключае свайго ўдзелу ў прэзідэнцкай кампаніі 2015 года.**

«Я не адмаўляўся і не адмаўляюся ад палітычнай дзейнасці, — кажа лідар руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч. — Але заўсёды казаў, што наперад павінна выходзіць новае пакаленне, патрэбная іх раскрутка. Не абавязкова выбіраць з адной і той жа апазіцыйнай абоймы. Нам, старэйшым, трэба стаць побач, дапамагчы моладзі. Вельмі прыкра, што ў сённяшніх умовах, скажам, былы начальнік прадпрыемства, ці кіраўнік горада, ці міністр не могуць пайсці ў апазіцыю, бо за гэта яны сядуць у турму».

Тым не менш, Мілінкевіч гаворыць, што ў выпадку вылучэння яго кандыдатам на Кангрэсе дэмакратычных сілаў браць самаадвод не будзе. «Калі перад гэтым адбудзецца кансалідацыя патрыятычных сілаў, то я гатовы ўдзельнічаць».

Раней гаварылася, што магчымым кандыдатам ад руху «За Свабоду» можа стаць палітолаг і выкладчык Алесь Лагвінец. «Яго кандыдатура абмяркоўваецца. Як і шэрагу іншых асоб, не хачу называць іх імёны. Мы маем вялікі спіс патэнцыйных кандыдатаў — гэта і былыя наменклатуршчыкі, і дзеячы культуры, і грамадскія дзеячы, і, канечне, палітыкі. Усё вырашыць Кангрэс дэмсілаў. Без Кангрэсу мы рызыкуем трапіць у сітуацыю 2010 года».

Сёння ўдзел у выбарах — гэта барацьба за ўладу ці спроба данесці да выбарцаў свае погляды? Мілінкевіч лічыць, што «перамога ў любым выпадку павінна быць мэтай нумар адзін», але пры гэтым павінна быць і праграма мінімуму — змяняць погляды людзей, праводзіць шырокую агітацыйную і асветніцкую кампанію.

Палітолаг Андрэй Казакевіч кажа, што ў сённяшніх умовах, у сувязі з падзеямі ва Украіне, план Плошчы можа быць небяспечным для Беларусі.

«Людзі задаволеныя той псеўдастабільнасцю, якую маюць сёння. Яны не ўспрымуць радыкальных захадаў і крывавых рэ-



«Я — праціўнік крывавых рэвалюцый»

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

валюцый. Ды я і сам супраць крывавых рэвалюцый. Перамены мусяць адбывацца толькі мірным шляхам. Што тычыцца Плошчы, то яе збіраць, безумоўна, трэба, але Плошчу цвёрда з мірнымі мэтамі, кантраляваную, нельга дапусціць беспарадкаў. Раней заўсёды ў апазіцыі былі дружыны, дужыя хлопцы, якія ў выпадку кідання камення ці чагосьці іншага здольныя вывесці правакатара за кайнер з натоўпу ды здаць яго ў міліцыю. Трэба да гэтага вярнацца», — гаворыць Мілінкевіч.

Мілінкевіч паведамляе, што выйсці на адзінага кандыдата на гэтых выбарах будзе няпроста. Ён кажа, што для яго важнае аб'яднанне на глебе каштоўнасцяў і ідэяў. «Будуць і такія людзі, якія ў жаданні скінуць уладу будуць глядзець на Маскву, спрабаваць абапірацца на яе дапамогу, нам з імі не па дарозе».

Ці хопіць у Аляксандра Мілінкевіча здароўя правесці паўнавартасную выбарчую кампанію. За апошнія гады ён перажыў некалькі аперацый на нагах. «Я малады як ніколі. Цэлы месяц адпачываў у Берштах. Плаваў кожны дзень па 2-3 кіламетры. Галава таксама працуе выдатна. Пакуль што ў людзей дамінуе песімізм у пытанні магчымасці змены ўлады, будзем працаваць, каб змяніць сітуацыю», — падсумоўвае палітык.

**Зміцер Панкавец**

# Мы Маскве даслалі падкрапленне

У Расіі чакаецца бум **беларускіх тавараў.**

Неўзабаве «беларускія крэветкі» разам з шэрагам іншых умоўна беларускіх прадуктаў могуць запаланіць паліцы расійскіх крамаў. Напрыклад, адзін блогер ужо сфатаграфаваў лядоўню з «беларускімі крэветкамі» ў Курску.

Увогуле, «беларускія крэветкі» — гучыць дзіўна. У Беларусі няма ні выхаду да мора, ні нейкіх знакамітых на ўвесь свет крэветачных фермаў. Крэветкі ў нас растуць, але толькі прэснаводныя і толькі ў тэхнічным вадаёме ля Бярозаўскай ДРЭС. Ёсць яшчэ рыбзаводы, якія выпускаюць крэветкі, але беларускае ў іх хіба што пераапрацоўка і фасоўка.

І ўсё ж масавы імпарт экзатычнай беларускай прадукцыі становіцца вымушанай явай для расейцаў. 7 жніўня жыхары Расіі прачнуліся ў краіне, куды забаронены імпарт амаль любой ежы з краін ЕС, ЗША і Японіі. Такім чынам Пуцін адказаў на санкцыі Захаду — забараніў увозіць харчаванне з краін, што падтрымалі санкцыі супраць Расіі. Матывавалі забарону «забеспячэннем бяспекі РФ».




Вось так лёгка і вокамгненна расейцы развіталіся з такой любімай літоўскай «малочкай», нарвежскай рыбай, польскімі яблыкамі, італьянскімі сырамі, амерыканскімі курынымі кумпячкамі. Паводле планаў расійскага ўрада, небяспечная для суверэнітэту краіны ежа з'явіцца ў крамах не раней як праз год — такі тэрмін мусіць дзейнічаць забарона на імпарт.

Вядома, санкцыі закрануць еўрапейскіх вытворцаў. Некаторыя з іх прагназуюць сур'ёзныя эканамічныя страты, і ЕС ужо пачаў шукаць выйсце і грошы на датацыі сельскагаспадарчаму сектару. Але калі заходнія санкцыі б'юць кропкава, дык расійскія разам з Захадам пакаралі і ўсё насельніцтва краіны. Прычым толькі час пакажа, каго зачапіла болей: іх ці сваіх. Бо сама сябе Расія ежай забяспечыць можа з цяжкасцю.

У першыя дні пасля ўвядзення харчовых санкцый інтэрнаўты шмат жартавалі, спажыўцы шалёна скуплялі замежныя прадукты і дзяліліся фотаздымкамі апусцелых супермаркетаў, расійская прапаганда пусцілася паказваць, наколькі айчынныя прадукты добрыя і як іх шмат.

Калі першая хваля сышла, пачаліся сур'ёзныя дыскусіі. Эксперты кажуць, што забарона імпарту моцна ўдарыла па пэўных пластах насельніцтва. Напрыклад, па дзецях-аўтыстах, людзях з цэліякіяй і іншымі хваробамі: ім патрэбныя спецыялізаваныя дыеты, напрыклад, безглютэнавая і безлактозная, а расійская прамысловасць пра такіх спажыўцоў ніколі не клапацілася. Вядомая спявачка і член Грамадскай палаты Расіі Дыяна Гурцкая звярнулася да Пуціна з просьбай выключыць з санкцыйнага спіса спартовае харчаванне. Яго ў Расіі робяць вельмі мала, ды і якасць адстае.

Беларусь адрэагавала на санкцыі, як і мусіла гэта зрабіць. Намміністра сельскай гападаркі і харчавання Леанід Марыніч назваў расійскія санкцыі «кландайкам» і паабяцаў замяніць галандскую бульбу і польскія яблыкі на беларускія аналагі.

Лукашэнка падчас наведвання Скідзельскага агракамбіната таксама заклікаў «варушыцца, выкарыстоўваць момант і зарабіць грошы», хоць за некалькі дзён да таго абяцаў Пуціну абараніць расійскі рынак і не дапусціць рээкспарту заходніх тавараў у РФ з тэрыторыі Беларусі. Таму, магчыма, неўзабаве Беларусь чакае небывалы ўздым сельскагаспадарчай галіны (магчыма, праўда, толькі на паперы). Бо цяпер камусьці ж трэба карміць Расію крэветкамі.

**Кірыла ХІлько**

**Мінск: Нічога забароненага мы ў Расію не рээкспартуем**

Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі абвяргае факты рээкспарту праз беларускую тэрыторыю забароненай у РФ прадукцыі.

«Паводле нашых дадзеных, гэтых фактаў не было. Як мы і абяцалі, наша мяжа — на замку», — сказаў начальнік галоўнага ўпраўлення знешнеэканамічнай дзейнасці Мінсельгасхарча Аляксей Багданаў.

Пры гэтым, паводле яго слоў, Мінсельгасхарч запытаў у Рассельгаснагляда афіцыйныя дакументы, якія пацвярджаюць факты рээкспарту праз Беларусь забароненай у РФ прадукцыі.

«Міністр асабіста патэлефанаваў Данкверту, але дагэтуль пацвярджэння няма. Ні пісьмовага, ні вуснага», — падкрэсліў Багданаў.

Нагадаем, 18 жніўня кіраўнік Рассельгаснагляда Сяргей Данкверт заявіў, што іх ведамства выявіла спробы рээкспарту праз Беларусь забароненых у Расіі еўрапейскай агарodніны і садавіны.

**БелаПАН**

**Беларускі і польскі міністры сустрэліся**

Працоўная сустрэча міністраў сельскай гаспадаркі двух краін адбылася ў Скідзелі ў Гродзенскім раёне 14 жніўня. Леанід Заяц і яго польскі калега Марэк Савіцкі абмеркавалі рознабаковыя пытанні.

# Лукашэнка пенсіі атрымліваць не будзе

30 жніўня кіраўнік дзяржавы адзначыць **60-годдзе**. Але дзяржслужачыя не маюць права на пенсію, пакуль працуюць.

У Беларусі для мужчын гэта ўзрост выхаду на пенсію. Але аказваецца, што Аляксандр Лукашэнка хоць і дасягнуў пенсійнага веку, але не можа скарыстацца ўсімі выгодамі.

«У дзяржслужачых пенсія налічваецца за выслугу гадоў, — патлумачылі ў адным з упраўленняў сацыяльнай абароны насельніцтва. — Яны павінны адпрацаваць на дзяржаўнай пасадзе не менш за 20 гадоў спецыяльнага стажу і не менш за 2 гады пасля 1 сакавіка 1994. Калі стажу 20 гадоў няма, права выхаду на пенсію па выслузе гадоў дзяржслужачы не мае».

Аляксандр Лукашэнка заступіў на дзяржслужбу ў ліпені 1994-га, калі быў абраны першым прэзідэнтам Беларусі. І сёлета ў яго ёсць усе падставы, каб адысці ад спраў, атрымліваць высокую пенсію дзяржслужачага, а не шарагоўца, і ні пра што не дбаць. Але пакуль ён будзе заставацца на дзяржпасадзе, пенсію атрымліваць не можа. І жыць будзе толькі на заробак. У адрозненне ад пенсіянераў, якія працуюць у іншых сферах: яны акрамя поўнага заробку атрымліваюць і пенсію па абмежаваным каэфіцыенце.

**СМ**

# Парашэнка, Пуцін, Эштан прыедуць на перамовы ў Мінск

Пра гэта гаворыцца ў паведамленні прэс-службы прэзідэнта Украіны Пятра Парашэнкі. Як адзначаецца, 18 і 19 жніўня адбыліся тэлефонныя кансультацыі Парашэнкі з прэзідэнтам Еўракамісіі Жазэ Мануэлем Барозу.

Прэзідэнт Еўракамісіі падтрымаў ініцыятыву кіраўніка Украіны аб запрашэнні прадстаўнікоў ЕС да ўдзелу ў сустрэчы высокага ўзроўню. 26 жніўня ў Мінску адбудзецца сустрэча ў фармаце Украіна — ЕС — «Еўразійская тройка» (Беларусь, Казахстан, Расія) для абмеркавання пытанняў, звязаных з выкананнем Пагаднення аб асацыяцыі паміж Украінай і ЕС, энергетычнай бяспекі і стабілізацыі сітуацыі на Данбасе.

Як паведамляе БелаПАН, прэс-сакратар МЗС Беларусі Дзмітрый Міронічык пацвердзіў інфармацыю пра сустрэчу.

Еўрасаюз у перамовах будзе прэзентаваць вярхоўны прадстаўнік па пытаннях замежнай палітыкі і палітыкі бяспекі Кэтрын Эштан. Беларусь, Расію, Украіну і Казахстан прадставяць лідары дзяржаваў.

**АГ**

**Твары**

# Новыя лідары «ДНР» і «ЛНР»



Былы кіраўнік самаабвешчанай «Луганскай народнай рэспублікі» Валерый Болатаў падаў у адстаўку. Ён паведаміў, што наступствы ранення не даюць яму працаваць у поўную сілу.

50-гадовы новы кіраўнік «ЛНР» Ігар Платніцкі ў савецкай арміі быў маёрам. У незалежнай Украіне спачатку займаўся бізнэсам (ягоная фірма валодала аўтазапраўкай у Луганску), а пасля ён заняў хлебнае месца ў януковіцкай сістэме — у Інспекцыі па абароне правоў спажыўцоў.




Былога «міністра абароны» самаабвешчанай «Данецкай народнай рэспублікі» (ДНР) Ігара Гіркіна адправілі ў «адпачынак». Яго месца заняў Уладзімір Конанаў.

Ён нарадзіўся ў 1974 годзе ў горадзе Горскі Луганскай вобласці. У 1995 годзе скончыў Славянскі авіяцыйны каледж грамадзянскай авіяцыі, а ў 1999 годзе — Славянскі дзяржаўны педагагічны інстытут. Па адукацыі ён настаўнік фізкультуры і трэнер.

Што ж такое адбываецца **ў Смалявіцкім раёне?**

# Высокія раённыя чыны збілі дзяўчыну за капусту

Праваабаронка-вясноўка Таццяна Равяка апісала жудасны выпадак.

«Маладая дзяўчына (спецыяліст) спрабавала спыніць крадзеж, сфатаграфавала злодзеяў. Чатыры мужыкі пачалі дзяўчыну збіваць, пагражалі нават забіць.

З пераломам рукі ў двух месцах, страсеннем мазгоў і іншымі пашкоджаннямі дзяўчына была дастаўлена ў бальніцу.

Выклікалі дактары міліцыю (парадак такі), прыехала прадстаўніца Следчага камітэта, распытала, паглядзела ацалелыя здымкі, на якіх пазнала каго трэба, і параіла замяць справу.

І цяпер пабітая, зняважаная, запалоханая дзяўчына баіцца нават агучыць гэта. А злачынцы — прыкрытыя, нічога не баяцца».

«Я абмалявала сітуацыю, характэрную для маленькіх беларускіх гарадоў, дзе начальнік — цар і бог», — патлумачыла Равяка.


Тое самае фота. Рэдакцыя замазала твары.

**«Наша Ніва» высветліла, што выпадак адбыўся ў Смалявічах, што ён рэальны. Мы знайшлі дзяўчыну, паразмаўлялі з ёй. Яна дагэтуль ляжыць у бальніцы.** Але гаварыць для газеты баіцца. Таму, вядома, мы не здолелі праверыць усіх акалічнасцяў здарэння. Мы будзем трымаць справу на кантролі.

Вядома, мы не можам сцвярджаць пра абставіны здарэння, пакуль не параўналі версій абодвух бакоў.

Добра было б, каб Следчы камітэт усё ж вярнуўся да справы, праверыў яе. Яна, што называецца, рэзанансная, і па такіх выпадках людзі ацэньваюць праваахоўнікаў.

**Кірыла Хілько**

# Арыштавалі сенатарку, якая стварыла брэнд «Ганна»

Яна пагарэла на закупцы кармоў за мяжой.

Каб пазбавіць дэпутацкай недатыкальнасці члена савета рэспублікі Ганну Шарэйка давялося склікаць пазачарговую сесію верхняй палаты парламента. Меркавалася, што справа будзе тычыцца Віталя Кастагорава, пра чыё затрыманне гаварылася ўжо больш за месяц. «Стрэліла» ж адтуль, дзе, здавалася, найменш чакалі — затрымалі дырэктарку Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі (беларускамоўны брэнд «Ганна») Ганну Шарэйка. Паспяховы кіраўнік трапіла ў карупцыйны скандал. Яе вінавацяць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі.

Закупала кармы па завышаных цэнах у замежнай кампаніі, з чыім дырэктарам сябравала. Фабрыка на гэтым знаёмсвет не далічылася 4 мільярды рублёў. Таксама Шарэйка прыпісваюць незаконную пабудову катэджа на 240 «квадратаў». На самой жа фабрыцы ананімна расказваюць, што прычынай арышту мог стаць канфлікт з абласной вертыкаллю. Маўляў, летась да Шарэйка звярнуліся з прадпрыемства, якое выпускае кармы для птушак. Прапанавалі падпісаць кантракт. Шарэйка адмовілася: не сышліся на цане-якасці. У выніку яна заключыла дамову з латвійскай кампаніяй. Нібыта нават з улікам мыта выходзіла танней, чым закупаць у Беларусі. Беларуская ж кампанія карысталася падтрымкай абласных чыноўнікаў. Такое самаўпраўства камусьці не спадабалася.

А па выніках 2013 года птушкафабрыка апынулася ў мінусах, бо грошы інвеставалі ў сваё пашырэнне. І ў сукупнасці ўсё стала падставай для пільнай праверкі. Магчыма, нейкія крокі менеджараў палічылі перавышэннем службовых паўнамоцтваў, адзначаюць на фабрыцы. Шэраг супрацоўнікаў затрымалі яшчэ ў ліпені.

«З адназначным выразным стаўленнем да яе я не сутыкаўся. Але мала ў горадзе, у Беларусі людзей, якіх ведаюць як кіраўніка канкрэтнага прадпрыемства, якое істотна развілася. Фабрыка стала знакавым, пазнавальным брэндам. Прадукцыя была разнастайнай. Яны стварылі ўласную сетку рознічнага гандлю, кавярні, рэстарацыю, месца адпачынку. Густоўныя, як прынята ў нас казаць, еўрапейскага тыпу месцы. Гэта была і ініцыятыва Ганны Васілеўны. На фабрыцы імкнуцца да культурнага адпачынку работнікаў», — расказаў жыхар Віцебска Віталь.

«Па Віцебску хадзілі чуткі, што фабрыку збіраюцца прадаваць расіянам. Што здзіўляе, улічваючы, што гэта ледзь не адзінае паспяховае прадпрыемства харчовай вытворчасці горада. Накont Ганны — гэта моцны кіраўнік, які падняў фабрыку... З ёй проста зводзяць рахункі і прыбіраюць з дарогі — бясспрэчна», — выказалася чытачка «НН» Ларыса.

Віцебская бройлерная фабрыка — гэта вялікая вытворчасць, якая размяшчаецца ў розных месцах. Тут адбываецца ўвесь вытворчы цыкл: ад атрымання яек і вырошчвання маладняку да перапрацоўкі мяса ў гатовую прадукцыю. У прадпрыемства ёсць уласная сетка крамаў, яму належаць тры кавярні, рэстаран. Росквіт звязваюць з умелай палітыкай дырэктаркі: бо ў 1990-х фабрыка была на мяжы банкруцтва. У 2006 фабрыку наведваў Аляксандр Лукашэнка. Застаўся задаволены працай.

**Сяргей Макарэвіч**



VITBICH.BY

**Жанчына года**

Ганна Шарэйка нарадзілася ў 1960 годзе ў в. Антопалле Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла Віцебскі ветэрынарны інстытут, аспірантуру Усерасійскага навукова-даследчага і тэхналагічнага інстытута птушкагадоўлі. Кандыдат сельскагаспадарчых навук.

Працавала ў саўгасе «Слідчаны» Чашніцкага раёна, у аб'яднанні «Белсельгастэхніка». Кар'еру на Віцебскай бройлернай птушкафабрыцы пачала з пасады аператара. З 1998 узначаліла яе.

Узнагароджана ордэнам Пашаны, медалём «За працоўныя заслугі». Пераможца рэспубліканскага конкурсу «Жанчына года — 2008» у намінацыі «За высокі прафесіяналізм».

З'яўляецца членам пастаяннай камісіі савета рэспублікі пятага склікання па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы. Абіралася ў савет рэспублікі чацвёртага склікання.

**«У нас новы дырэктар»**

Пра арышт яшчэ аднаго члена савета рэспублікі загаварылі месяц таму. Тады паведамілі пра затрыманне проста ў будынку парламента Віталя Кастагорава. Пазней яго пазбавілі дэпутацкай недатыкальнасці: ціха, не як Шарэйку. Праўда, афіцыйна не каментуюць, у якой справе фігуруе дэпутат.

Мабільнік сенатара «часова не даступны». «Без каментарыяў», — заявіла яго жонка журналісту «НН». І кінула слухаўку.

«У нас новы дырэктар», — паведамілі на прадпрыемстве «Палітэкс», якое Кастагораў да нядаўняга часу ўзначальваў. «Звольніўся?» — «Так, звольніўся».



PNIVA.BY

У Магілёве на жонку Кастагорава зарэгістраваны тэлефонны нумар у прыватным катэджы. Праўда, сам катэдж цяпер належыць іншаму чалавеку — восенню 2013 дом падарылі. Выглядае, што яго атрымала цешча бізнэсоўца. Цяпер трохпавярховы будынак на 265 «квадратаў» з чатырма дваровымі пабудовамі знаходзіцца пад арыштам. Адпаведную пастанову падпісаў яшчэ 26 чэрвеня старшыня КДБ Валерый Вакульчык.

Віталь Кастагораў нарадзіўся ў 1969 у пасёлку Таромскае Днепрапятроўскай вобласці ва Украіне. Скончыў Калінінградскае вышэйшае інжынернае вучылішча па спецыяльнасці «фартыфікацыйныя збудаванні і маскіроўка».

З 1995 па 1996 працаваў намеснікам дырэктара па камерцыйных пытаннях малога эксперыментальнага прадпрыемства «Аспект». У 1997 — 1998 — намеснік дырэктара па камерцыйных пытаннях прадпрыемства «Палітэкс». З 25 снежня 1998 года з'яўляўся дырэктарам ЗАТ «Палітэкс».

Кастагораў абраны членам савета рэспублікі пятага склікання ад Магілёўскай вобласці. З'яўляецца членам Савета па развіцці прадпрымальніцтва. Ганаровы прадпрымальнік Беларусі (2003). Чалавек года Магілёўскай вобласці (2002). Найлепшы прадпрымальнік года ў намінацыі «Мецэнат» (2001, 2002), «Экспарцёр» (2003).

«Палітэкс» — адзін з найбуйнейшых вытворцаў нятканых матэрыялаў для тэкстыльнай, лёгкай, мэблевай, аўтамабільнай прамысловасці, дарожнага будаўніцтва, фільтраў, напаўняльнікаў для адзення, мяккіх цацак.

## Падаражэла аўтамабільнае паліва

Канцэрн «Белнафтахім» 19 жніўня абвясціў пра другое ў гэтым годзе падаражанне аўтамабільнага паліва. Рост цэн склаў 4—4,8%.

«Перагляд цэн ажыццёўлены ў мэтах кампенсацыі змены курса беларускага рубля адносна замежных валют», — гаворыцца ў паведамленні канцэрна.

Бензін Аі-92 цяпер каштуе 9.500—9.700 рублёў (+400; +4,3-4,4%), Аі-95 — 10.400 (+400; +4,0%), дызпаліва (самае таннае) — 10.500 (+400; +4,0%), «Нармаль-80» — 8.800 (+400; +4,8%).

**БелаПАН**

## Увага! У крамах можа стаць больш нясвежага

Вядома, гаворка толькі пра несумленных магазіншчыкаў. А рэч у тым, што ўвялі новую норму: буйным крамам і гандлёвым сеткам забаранілі прымушаць пастаўшчыкоў забіраць пратэрмінаваны тавар.

Гэта вынік прыняцця закона «Аб дзяржаўным рэгуляванні гандлю і грамадскага харчавання».

Калі дамовяцца — могуць забіраць. Але калі не хочуць — то будзе заставацца ў гіпермаркеце.

Цяпер уладальнік буйной крамы таксама не мае права ўключаць у дамову пастаўкі тавару патрабаванне аб аплаце за разгрузку транспарту, прыёмку тавараў, падрыхтоўку тавараў да продажу, фасоўку, выкладку ў гандлёвай зале.

А нам, куцпам, трэба быць пільнымі. Глядзіце даты захоўвання прадукта, перш чым купіць.

**СГ**

## Кампанія Lenovo адкрые афіцыйнае прадстаўніцтва ў Беларусі

Lenovo — адзін з сусветных лідараў у вытворчасці персанальных камп'ютараў — адкрывае ў Беларусі афіцыйнае прадстаўніцтва.

Яно запрацуе восенню і размесціцца непадалёк ад цэнтра Мінска ў бізнэс-цэнтры «Норд Сіці». Рэгіянальным прадстаўніком у Беларусі будзе Аляксандр Вініцкі. Гэтым крокам кампанія разлічвае ўзмацніць уплыў на беларускім рынку планшэтаў і смартфонаў, а таксама будзе весці свой бізнэс незалежна ад украінскага офіса, як гэта было раней.

Кіраўнік прадстаўніцтва Lenovo ва Украіне Чжоу Вэй Цзянь заявіў аб намеры кампаніі стаць лідарам у Беларусі па продажы планшэтаў і смартфонаў. Нягледзячы на тое, што афіцыйныя продажы гэтых прылад у краіне стартавалі вясной, гэтую мэту ён лічыць дасягальнай ужо ў найбліжэйшай будучыні.

У кампаніі Lenovo таксама заяўляюць аб намеры выйсці на беларускі рынак тэлевізараў, падкрэсліваючы, што раней гэта было немагчыма з-за высокага кошту прылад, які мог адпудзіць спажыўца. Не выключаюць таксама з'яўлення ў Беларусі «разумных акуляраў».

Штаб-кватэра кампаніі Lenovo размешчана ў Перчэйзе (штат Нью-Ёрк, ЗША), а асноўныя апрацыйныя офісы — у Пекіне і Ролі (штат Паўночная Караліна, ЗША).

## Палова вакансій у Беларусі — на заробак меней за 3 млн рублёў

Пра гэта БелТА паведаміла намеснік начальніка ўпраўлення палітыкі занятасці Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Галіна Грынчук.

Яна адзначыла, што на пачатак жніўня ў агульнарэспубліканскім банку вакансій 26% былі з заробтнай платай звыш 4 мільёнаў. У Мінску 46,6% вакансій пераадолелі рубеж у 4 млн рублёў.

Доля вакансій з заробкам ад 3 да 4 мільёнаў рублёў складае ў цэлым па Беларусі 25,3%, а да 3 мільёнаў — 48,7%.

# Беларус, які працаваў у Гвінеі, пра «смерць тубабу» і пагрозу Эболы

**Уладзімір Бруй** з Нясвіжскага раёна прапусціў Афрыку праз сябе.

Страшная пагроза чалавецтву — новыя хваробы, ад якіх няма ратунку. Вось Эбола: восем з дзесяці хворых паміраюць. Навіны з Афрыкі прыходзяць трывожныя: трасца шырыцца ў Нігерыі, а таксама Сьера-Леонэ, Ліберыі і Гвінеі. Калісьці хваробы афрыканцаў нас мала хвалявалі. А цяпер свет глабалізаваны, людзі ездзяць, лётаюць зусюль.

Былы настаўнік замежных моваў з Нясвіжскага раёна Уладзімір Бруй акурат у Гвінеі працаваў. Нават хварэў там!

Спадара Бруя ў вёсцы Карцэвічы шануюць: ён былы настаўнік замежных моваў. І цяпер 66-гадовы знаўца не сядзіць без працы. Падрабляе перакладчыкам на Гарадзейскім цукровым заводзе.

«Упершыню я трапіў у Гвінею ў 2009 годзе. Прабыў там дзевяць месяцаў — у сталіцы, Канакры. Гэта вялікі партовы горад.

Другі раз паехаў у 2010, ужо на пяць месяцаў — у правінцыю Фарана, мясцовасць, дзе жыве народ куранко. Там шмат геолагаў, краіна мае гіганцкія запасы баксітаў (першае месца ў свеце!), ёсць там і золата, алмазы, руды, цыркон, рутыл, манацыт. Я і працаваў перакладчыкам у аўстралійскай геалагічнай кампаніі. Мясцовая мова ў Гвінеі — французская, бо краіна была французскай калоніяй. А дакументацыя ў нашай кампаніі вялася на англійскай. І вось я з гэтых дзвюх моваў перакладаў.

Цікава, што гвінейцам шмат гадоў убівалі ў галаву, што французы — гады і каланізатары. Але ж, калі дзяржава стала незалежнай, то пачалі псавацца дарогі, перасталі працаваць многія прадпрыемствы і электрастанцыі. І, дарэчы, за той час, калі СССР меў добрыя адносіны з Гвінеяй — у 1960-я і 1970-я — у лепшы бок там мала што змянілася.

Першы год я працаваў у асноўным у офісе. А калі прыехаў у другі раз, то ўвесь час жыў на базе ў джунглях. Там і захварэў. У маі там акурат пачынаецца сезон малярыйных камароў.

Адзін раз мяне падлячылі, але ж праз пэўны час хвароба вярнулася. У нас быў добра ўладкаваны лагер, з аховай, доктарам і медсястрой. Калі прыйшоў час ад'язджаць дахаты, я з'ехаў, скончыў прымаць курс таблетак — і ўсё. Аніякіх наступстваў не адчуваю.

Малярыя ў Гвінеі — страшэнна распаўсюджаная хвароба, амаль як у нас насмарк. Я не ведаю, колькі дакладна працэнтаў хворых ідзе да доктара, але, як мне здаецца, большасць займаецца самалячэннем. А гэта ўжо так — альбо на той бок, альбо на гэты. Альбо стане чалавеку лепш, альбо памрэ. І вось такія небаракі проста ляжаць на вуліцах і глядзяць у неба. Глядзяць такімі вачыма, у якіх ужо няма ніякай надзеі. Проста ляжаць на асфальце — і ўсё.

Калі ж выкарыстоўваюцца лекі, то перамагчы тую ж малярыю вельмі проста. Робяць аналізы, ставяць кропельніцы, літаральна два дні — і чалавеку становіцца намнога лягчэй. Каб пазбавіцца ад малярыі, трэба недзе пяць-шэсць кропельніц, па адной на дзень.

Але гвінейская медыцына — платная. Для простых людзей — дорага. Я лячыўся адной ў доктара, які, здаецца, быў выхадцам з Марока. Дык там быў добры кабінет, з добрай японскай апаратурай. Вядома, дазволіць сабе такое лячэнне могуць няшмат гвінейцаў.

Грошай там у людзей мала. Так, трошкі зарабляюць людзі на заводзе, які разлівае ваду, на бетонных заводах, можа, яшчэ ў маленькіх прыватных майстэрнях... Настаўнікі атрымліваюць заробкі і пенсіі, салдаты, афіцэры. І амаль усё. Да таго ж шмат беспрытульных, якія таксама хварэюць і хваробы разносяць.

Медыцына гвінейская трымаецца на прыезджых. Мясцовыя жыхары атрымліваюць медыцынскую адукацыю ў Расіі, багацейшыя — у Францыі і Англіі, але іх мала.

Уплыў на простых людзей маюць мясцовыя ведзьмакі і варажбіты. Ратуюць людзей замовамі: і ад малярыі, і ад укусу змяі. Але колькі людзей сапраўды можа выратаваць мясцовы варажбіт, а колькі пасля яго «шаманства» памрэ — вось пытанне.

Дзяржаўнай медыцыны я там не бачыў. Усе медыцынскія ўстановы, якія я бачыў там, былі прыватнымі.

З тым узроўнем медыцыны, які там быў, Гвінея сама ніколі не дасць рады ліхаманцы Эбола. Трэба, каб дапамагала сусветная супольнасць. Але я спадзяюся, што ўсім светам зможам з гэтым справіцца. Бо былі ж і птушыныя грыпы, і атыповая пнеўманія — і ўдалося чалавецтву іх спыніць».

**Гутарыў Улад Швядовіч**


Жанчына і хлопчык мыюць золата.

**З хваробамі там так: або на той бок, або на гэты. Або стане чалавеку лепш, або памрэ**


Уладзімір Бруй.

**Гвінея**

Дзяржава на захадзе Афрыкі. Мяжуе з Малі, Сенегалам, Гвінеяй-Бісау, Ліберыяй. Кот-д'Івуарам, Сьера-Леонэ. Тэрыторыя 245 тыс. кв. км (трохі большая за Беларусь). Насельніцтва — 11 млн чалавек.

Амываецца Гвінейскім залівам, а праз саму яе цякуць шматлікія рэчкі.

Першы прэзідэнт краіны Ахмед Сэку Турэ будаваў там сацыялізм, кіраваў 26 гадоў. Дабудаваўся да таго, што стаў рэгуляваць указамі колькасць гандляроў на базарах. Як толькі ён памёр, гэтую справу згарнулі.

Цяпер там шматпартыйная дэмакратыя, але народ моцна падзелены па племяннoй прыкмеце.

**Вялікая белая малпа**

У маі, адначасова з сезонам размнажэння малярыйных камароў, у Гвінеі пачынае квітнець дрэва, якое мясцовыя жыхары называюць «смерць тубабу». «Тубабу» перакладаецца як «вялікая белая малпа» — так гвінейцы называюць белых. Раней белыя масава паміралі ад малярыі, да якой еўрапейцы нязвыклыя. Але цяпер беласкурых ад малярыі памірае значна менш, чым мясцовых жыхароў. Медыцына!

# Колькі каштуе зняць жыллё ў Мінску

Жнівень — самая гарачая пара на сталічным рынку **арэнднага жылля.**

Мінск запаўняецца натоўпамі студэнтаў, і цэны традыцыйна паўзуць уверх.

Колькі прыйдзецца заплаціць за здымную кватэру, залежыць ад розных фактараў: рамонту, месцазнаходжання і проста фарту.

### Пакоі

Каштуе пакой у сталіцы ад 150 да 250 даляраў за месяц. Што датычыцца камуналкі, то звычайна яна дзеліцца ці на ўсіх, хто жыве ў кватэры, ці па колькасці пакояў.

Варыянты, таннейшыя за 150 даляраў, звычайна крыюць у сабе нейкі падвох. Хаця, вядома ж, бываюць і выключэнні.

### Аднапакаёўкі

Самыя «гарачыя піражкі» на рынку арэнднага жылля. Гэта ідэальны варыянт для маладой бяздзетнай сям'і і адзінокага спецыяліста, чый заробак трошкі перавышае сярэдні па горадзе. Выкласці за аднапакаёўку прыйдзецца ад 350 да 450 даляраў. Камуналка, вядома, аплачваецца асобна.

Для тых, хто ўсё ж такі шукае таннейшае жыллё, ёсць яшчэ адзін варыянт — кватэры без мэблі. Такую можна зняць за 300—350 даляраў. Але, хутчэй за ўсё, гэта будзе калі не Каменная горка, то Малінаўка.

### Двухпакаёўкі

Асноўныя арандатары такіх кватэр — сям'я з дзецьмі ці двое сяброў. Каштуюць двухпакаёўкі ў сярэднім каля 500—550 даляраў. Значна таннейшых за паўтысячы даляраў двухпакаёвых кватэр няшмат. Звычайна цэннік не падае ніжэй за 450 даляраў. І ў такіх выпадках можна быць упэўненым: ці да метро вам прыйдзецца дабірацца не пяць і нават не дзесяць хвілін, ці інтэр'ер кватэры можна ахарактарызаваць як «у стылі СССР». А хутчэй за ўсё — і першае, і другое.

### Трохпакаёўкі і іншыя

Цана на такія кватэры стартуе ад 600—650 даляраў і далятае да нябёсаў. У выпадку са шматпакаёўкамі ўсе законы як цэнаўтварэння, так і логікі губляюць сэнс.

Прымальны варыянт з трох пакояў у Мінску можна знайсці ў сярэднім за 700 даляраў. Але хапае прапаноў, за якія просяць 1000 і больш.

**УШ**

# Астраномы назвалі магчымую дату гібелі чалавецтва

На велізарнай хуткасці да Зямлі ляціць гіганцкі астэроід, які можа сутыкнуцца з нашай планетай і разбурыць яе 16 сакавіка 2880 года.

Такія падлікі зрабілі навукоўцы з універсітэта штата Тэнэсі. Астэроід носіць імя 1950 DA. Шанцы на сутыкненне ацэньваюцца як адзін да трохсот.

Астэроід дасягае кіламетра ў дыяметры і рухаецца да Зямлі з хуткасцю 14,5 кіламетраў у секунду. Калі сутыкненне адбудзецца, магутнасць выбуху складзе 45 тысяч мегатон.

Аднак, лічаць навукоўцы, у землян яшчэ досыць часу, каб прадухіліць катастрофу, напрыклад, прыдумаць спосабы знішчэння нябеснага цела.

**Сяргей Гезгала**

# У Віцебску памёр спартовец з Кнігі рэкордаў Гінэса

**Ён прыляцеў у Беларусь для ўдзелу ў Другой сусветнай алімпіядзе па гіравым трыятлоне.**

Падчас трэніроўкі ў спартыўнай зале памёр майстар спорту, сусветны рэкардсмен Кнігі рэкордаў Гінэса Амірбай Рыскулаў. Размінаўся: цягам хвіліны падымаў 10-кілаграмовую гіру, адышоўся з памоста і паваліўся. Рэанімавацьь яго калегі не змаглі. Медыкі канстатавалі смерць. Па папярэдняй версіі, мужчына памёр ад вострай сардэчнай недастатковасці.

Рэкардсмену было 77 гадоў. Але ў такім паважным узросце ён стараўся выязджаць на падобныя спаборніцтвы.

Амірбай Рыскулаў жыў у сяле Мамбет Алма-Аціснкай вобласці. З'яўляўся не толькі выдатным спартоўцам: з 2003 года ён стаў імамам мячэці «Жамбыл».

Амірай-ата, як паважна называлі яго ў казахскай прэсе, быў адным з самых выдатных спартоўцаў-гіравікоў Казахстана. У канцы 2013 ён усталяваў сусветны рэкорд, падняўшы на спаборніцтвах у Архангельску 10-кілаграмовую гіру 750 раз за паўгадзіны.

Амірбай Рыскулаў заваяваў 65 залатых, 14 срэбраных і 14 бронзавых узнагарод і стаў першым уладальнікам «Залатой гіры» сярод гіравікоў Казахстана. Гэты знак уручаецца спартоўцам, якія маюць званне «Заслужаны майстар гіравога спорту» ці «Майстар гіравога спорту міжнароднага класа» і бралі ўдзел не менш як у 60 афіцыйных спаборніцтвах, дзе заваявалі не менш за 50 залатых медалёў.

Праўда, у цяжкую атлетыку прыйшоў хутчэй выпадкова. Падчас навучання ў Інстытуце фізічнай культуры ў Алма-Аце Рыскулаў займаўся вольнай барацьбой. Аднойчы ў спартзале ён падымаў штангу. За імі назіраў трэнер. «Паслухай, ці ведаеш ты, колькі кілаграм важыць штанга, якую ты з лёгкасцю падымаеш?» — «Не», — адказаў студэнт. «90 кілаграм у штуршку». Пры гэтым вага Амірбая тады была толькі 60 кілаграм. І ён не быў штангістам, а значыць, не мог ведаць многіх нюансаў тэхнікі.

Трэнер па штанзе пераканаў яго пачаць падрыхтоўку да спаборніцтваў, на працягу года яны таемна рыхтаваліся і на ўсесаюзным турніры Амірбай заняў 3-е месца. Тады і атрымаў званне майстра спорту СССР па цяжкай атлетыцы — паказаў вынік 160 кг у кропцы.

Праўда, пасля сканчэння інстытута прафесійны спорт пакінуў: бацька загінуў яшчэ ў вайну, маці пасля — трэба было падымаць на ногі малодшых братоў і сясцёр. Але «жалеза» працягваў цягаць. І ўжо пазней «стрэліў».

«Я ўзгадваю, што некалі падымаў 160 кг, і думаю, што гэтыя дзве гіркі практычна нічога не важаць, таму і падымаю іх, не адчуваючы стомы», — сказаў рэкардсмен у адным з інтэрв'ю.

**Паводле «Народных навінаў Віцебска»**



## Дзікае здарэнне ў Навагрудку

**На 150 км\г «БМВ» не ўвайшоў у паварот.**

26-гадовы жыхар Навагрудка вяртаўся з суседняй Бярозаўкі, куды ён ездзіў наведаць знаёмую. Было гэта а 5.30 ранку, паведамляе ДАІ Гродна. Ехаў на «БМВ». На закругленні дарогі ён не даў рады кіраванню, «зачапіў» узбочыну. Машыну пачало круціць і вынесла на сустрэчку пад фуру «ДАФ».

Ехаў ён непрышпілены, таму ад удару яго выкінула на задняе пасажырскае сядзенне. Ад атрыманых траўмаў ён памёр на месцы. Відавочцы растлумачылі, што хуткасць машыны «БМВ» была каля 150 км/г.

Варта адзначыць, што за 8 гадоў стажу кіроўцы загінулы 45 разоў парушыў ПДР, а ў 2013 годзе за перавышэнне хуткаснага рэжыму быў пазбаўлены права кіраваць аўто. І вось жа — сеў за руль без правоў. Бяда гнала яго...

**Сяргей Гезгала**

## П'яная гуляка на «Аўдзі» збіла веласіпедыста

**Кампанія вярталася з возера.**

Трагедыя адбылася яшчэ 9 жніўня. Як паведаміла прадстаўнік ДАІ Брэсцкай вобласці Наталля Сахарчук, у 23.40 17-гадовая дзяўчына за рулём «Аўдзі-100» вярталася з возера. Акрамя яе ў машыне ехалі яшчэ пяць сябровак. На 56-м кіламетры дарогі Дывін — Радастава, пад Кобрынам, дзяўчына збіла веласіпедыста. Мужчына, 1960 года нараджэння, ад атрыманых траўмаў памёр на месцы.

Дзяўчына была нецвярозай. Медыцынскі агляд паказаў 1,4 праміле алкаголю ў крыві — добра так адпачыла на прыродзе. Правоў на кіраванне аўто яна яшчэ не мела. Мяркуецца, што сам бацька дазволіў дачцэ сесці за руль. Не чакаў, відаць, што тая пацягнецца па шклянку. Цяпер турма пагражае і яму.

Пазней, падчас «прамой лініі», шакуючыя падрабязнасці здарэння раскрыў начальнік Брэсцкай дзяржаўтаінспекцыі. Высветлілася, што пасля сутыкнення веласіпедыст уляцеў у салон праз лабавое шкло. Але дзяўчына не разгубілася і праз пярэднія дзверцы выцягнула яго і кінула ў кювет. Калі акажацца, што мужчына быў яшчэ жывы пасля сутыкнення, то сяброўкам гулякі таксама пагражае адказнасць за неаказанне дапамогі чалавеку, які знаходзіцца ў небяспечным для жыцця стане. Адна смерць, а за краты могуць адправіцца ажно сямёра.

**Улад Швядовіч**

### Вышук



**«Падняўся» на цацкоўным**

Чалавек на фота падазраецца ў крадзяжы з цацкоўнай лаўкі ў Мінску на вул. Стаханаўскай. Зніклі вырабы са срэбра і золата, 200 абразкоў, скрыня цацкоўнага віна — усяго майна на 89 мільёнаў рублёў. Калі вы ведаеце знаходжанне гэтага чалавека, звяртайцеся ў Партызанскае РУУС Мінска на: (017) 230-44-40, (029) 205-47-14.



**Абяцаў вокны**

27-гадовы мінчук з'явіўся ў міліцыю з павіннай: падманам заваладаў грашыма людзей. Праз інтэрнэт прапаноўваў устаноўку вокнаў, жалюзі. Браў перадаплату, а працу не выконваў. Хто пацярпеў ад гэтага чалавека, звяртайцеся ў Партызанскае РУУС Мінска на: (017) 230-44-40, (044) 591-94-08.

## Кухар у летніку не дакладаў порцыі дзецям



**«Сэканоміў» дзясяткі кілаграм прадуктаў.**

Дэпартамент фінансавых расследаванняў выявіў вялікія парушэнні ў лагеры «Чонкаўскі бор» у Гомельскім раёне. Шэф-повар разам з іншымі работнікамі кухні за два дні «ашчадзіў» прадуктаў на 4 мільёны рублёў.

У першы дзень праверкі ў пакоі сутказапасу прадуктаў сталоўкі (у 15.00 тут павінны былі застацца толькі прадукты на падвячорак і вячэру) кантралёры выявілі лішкі на 500 тысяч рублёў. Нічыйнымі аказаліся 20 пакетаў малака, 14 пачкаў паніровачных сухароў, 1 кг зефіру, 2 пачкі аўсяных шматкоў, 4 слоікі павідла, 1 слоік кансерваваных агуркоў. Прадукты афармілі на склад.

Але кантралёры вярнуліся на наступны дзень з новай праверкай. Вынік быў нечаканы — шэф-повар на гэты раз «ашчадзіў» у 7 разоў больш: 20 кг свініны, 10 кг памідораў, 3 кг агуркоў, 35 пачкаў сметанковага масла, 30 пакетаў малака, 4 кг рыбы, грэчка, ячныя крупы, чай, кава, цукар на суму 3,5 мільёна рублёў. Прадукты ўжо былі расфасаваныя па асобных скрынках.

Лабараторныя даследаванні пацвердзілі, што дзецям у «Чонкаўскім бары» ў ежу не дакладалі прадукты. І порцыі былі меншыя на 15—20 працэнтаў. Справай займаюцца праваахоўнікі.

**Сяргей Макарэвіч**

### Сцісла

**Канфіскавалі ў цягніку**

Брэсцкія мытнікі выявілі ў грамадзянкі Казахстана ў цягніку Варшава — Масква буйную партыю вырабаў са срэбра. Жыхарка горада Алмааты падала ў сваёй мытнай дэкларацыі звесткі пра 124 срэбныя кулоны, ланцужкі і іншыя прадметы біжутэрыі. Пры гэтым у яе асабістых рэчах знайшлі яшчэ больш за 4 тыс. срэбных ювелірных вырабаў агульнай вагой 17 кг, якія канфіскавалі.

**Бізнэс па-крычаўску**

Скончана расследаванне крымінальнай справы супраць былога гендырэктара ААТ «Крычаўцэментнашыфер». Як паведаміла прадстаўнік УСК па Магілёўскай вобласці Аксана Салянюк, кіраўнік выпісваў падначаленым прэміі, а пасля з іх частку забіраў. Атрымаў так 214 мільёнаў рублёў. Падчас расследавання гэтую суму кампенсаваў. Таксама следчыя высветлілі, што кіраўнік браў грошы ад прадстаўнікоў прыватных прадпрыемстваў за вырашэнне пытанняў у сваёй кампетэнцыі. На маёмасць і грошы экс-гендырэктара накладзены арышт — на агульную суму больш за 1 мільярд 670 мільёнаў рублёў. Знаходзіцца пад вартай. Па справе прыходзіць 148 пацярпелых.

**Згарэў архітэктурны помнік**



У Мінску згарэў дом, які з'яўляўся гісторыка-культурнай каштоўнасцю як помнік гарадскога драўлянага дойлідства пачатку XX ст. Пажарныя прыехалі па выкліку ў лічаныя хвіліны, аднак дом быў ужо цалкам ахоплены агнём. Драўляны аднапавярховы будынак па адрасе завулак Паўночны, 26 загарэўся каля гадзіны ночы. Мяркуецца, што яго падпалілі.

**Кастусь Матушыч**

# Французская кампанія распрацавала самалёт без вокнаў, але з гіганцкімі экранамі

Калі гэты праект будзе рэалізаваны, то пасажыры змогуць **ацаніць прыгажосць палёту**.



Гледзячы на маленькае акенца самалётнага ілюмінатара, не заўсёды ўдаецца адчуць палёт у адкрытай прасторы. Зыходзячы з гэтага, французская кампанія Technicon Design распрацавала канцэпт самалёта, у якім вокнаў не будзе зусім, затое з'явяцца вялізныя панэлі дысплэяў у высокім пашырэнні, якія будуць усталяваныя па ўсёй плошчы столі і бакавых сценак.

На гэтых экранах будзе дэманстравацца выява наваколля, што дазволіць атрымаць амаль кругавую панараму. І ў пасажыраў будзе складацца ўражанне, што яны не ў салоне самалёта, а проста ў адкрытай прасторы.

Але гэта не значыць, што дэманстравацца на панэлях будуць выключна аблокі. Абсалютна магчыма ўключаць на экранах кадры з джунгляў, пустыні ці акіяна.

Дарэчы, адмова ад вокнаў зможа зменшыць цану і вагу самалёта. Эксперты кажуць, што цэльны фюзеляж самалёта будзе больш бяспечным з тэхнічнага гледзішча.

Лявон Максюта

**Фотафакт**



**Краўчанка — чэмпіён Еўропы**

28-гадовы лёгкаатлет з Петрыкаўскага раёна Андрэй Краўчанка стаў чэмпіёнам Еўропы ў дзесяціборстве. Гэтая дысцыпліна ўключае ў сябе бег на 100, 400, 1500 і 110 метраў з бар'ерамі, скачкі ў даўжыню, вышыню з шастом, штурханне ядра, кіданне дыска і дзіды. Цікава, што ў Краўчанкі на нагах ёсць татуіроўкі з сімваламі-выявамі ўсіх гэтых відаў. На левай са спаборніцтвамі, што праходзяць у першы дзень, а на правай — віды другога дня. Андрэй Краўчанка — срэбраны прызёр Алімпіяды-2008 у Пекіне. На чэмпіянаце ў Цюрыху ён паказаў найлепшы вынік сезона — 8616 балаў, — апярэдзіўшы француза Маера і расейца Шкуранёва. Яшчэ адно золата для Беларусі заваявала бягуння на 800 метраў Марына Арзамасава.

# У Брытаніі з'явіўся першы кланаваны сабака

Такса па мянушцы **Міні-Віні** атрымала генетычны код ад 12-гадовага сабакі Віні, які таксама жыве ў доме Рэбекі Сміт, а было кланавана шчаня ў Паўднёвай Карэі.



Міні-Віні на фота, здаецца, злева.

Кланаванне сабакі каштавала 90 тысяч даляраў, аднак Сміт гэта абышлося бясплатна, бо яна стала пераможцай конкурсу.

«Яны настолькі падобныя, што спяць аднолькавую колькасць гадзін і адначасова прачынаюцца раніцай», — кажа гаспадыня кланаванага сабакі. Некалькі месяцаў таму навукоўцы ўзялі пробы скуры ў Віні, пасля чаго стварылі генетычна падобны эмбрыён.

У Брытанію з Паўднёвай Карэі Міні-Віні даставілі толькі праз пяць месяцаў пасля нараджэння.



Камертон Сяргея Ваганава

# Дзіцячыя гульні дарослых

Даўно цягне выказацца пра так званыя вайскова-гістарычныя рэканструкцыі.

Лічыцца, што яны паглыбляюць гістарычныя веды, стымулююць цікавасць да гісторыі і выхоўваюць патрыятызм.

Так, мусіць, паглыбляюць, стымулююць ды выхоўваюць. Спрачацца не выпадае. Але вось жа нешта стрымлівае ад захаплення, калі чытаеш, як сёлета святкуецца 600-годдзе Грунвальдскай бітвы ці як «парламентарии машут белыми платками» падчас рэканструкцыі падзей Першай сусветнай вайны пад Смаргонню.

Усё гэта, зразумела, дробязь, памылкі ў датах ці ў словах лёгка папраўляюцца.

Але ж я — пра іншае.

Пра тое, як «за полчаса зрители прожили четыре года: увидели наступление войск, закрепление линии обороны, газовую атаку, момент братания и окончание войны». Дарослыя пры тым «плакали», а «дети просили больше не стрелять»... Вось так было ўсё праўдзіва.

Чаму ж не пакідае адчуванне нейкай фальшывасці? І ад гульні ў Грунвальд, што адбываецца ў Дудутках, і ад ігрышчаў на «Лініі Сталіна», і ад згаданай страляніны пад Смаргонню...

Я доўга не знаходзіў адказу на гэтае пытанне, пакуль у чарговых жахлівых «карцінках» з Данбаса не ўбачыў двух хлопчыкаў, гадоў мо дзевяці-дзесяці, з драўлянымі «калашамі»...

Я не ведаю, хто з іх быў «бандэраўцам», а хто «апалчэнцам». Адзін хутка прамільгнуў, мусіць, недзе па-за кадрам абраў зручную пазіцыю. Камера засяродзілася на іншым. І вось тут я знайшоў адказ: ён так натуральна, так прафесійна то хаваўся за выступам паўразваленай сцяны, то высоўваўся на хвіліну, каб хуценька выпусціць у «ворага» смяротную чаргу, што стала зразумела — на сапраўднай вайне дзеці не просяць, каб дарослыя больш не стралялі.

Шмат аб чым дзеці просяць дарослых на сапраўднай вайне — піць... есці... не даць памерці... не паміраць... Але аб тым, каб не стралялі, не просяць. Бо якая ж гэта вайна, калі не страляць?!

Быў у маім журналісцкім жыцці эпізод, калі давялося самому ладзіць «рэканструкцыю». У 1985-м, напрыканцы сакавіка, газета «Труд», дзе я тады працаваў беларускім уласным карэспандэн-

**На сапраўднай вайне дзеці не просяць, каб дарослыя больш не стралялі**



там, з нагоды 40-годдзя Перамогі над Германіяй вырашыла зладзіць семінар галоўных рэдактараў прафсаюзных газет з краін сацлагера. Пачаць было даручана з Брэсцкай крэпасці. А пасля ўжо рухацца «па маршрутах партызанскай славы» — так было сказана ў пісьмовым даручэнні — на Мінск.

...Пад Івацэвічамі аўтобус сустрэлі дзяўчаты з хлебам-соллю, «газікі» і БТРы. Усім параздавалі гумавыя боты, і па гразкім прасеўшым сакавіцкім снезе ды глыбокай каламутнай вадзе мы рушылі ва ўрочышча, дзе падчас вайны месціўся штаб Брэсцкага партызанскага злучэння. Пасля яшчэ з кіламетр пешшу, праз балота і непралазны хмызняк. Не паспеў я падумаць, што назва ўрочышча — «Хаваншчына» — цалкам адпавядае партызанскай патрэбе хавацца, як пачуў нейкія ўсхліпы. «Тут... тут... у Беларусі... загінуў бацька», — амаль нячутна прамовіла рэдактарка з ГДР. Захінуўшы шалем твар, на якім засталіся толькі счырванелыя вочы, яна апусцілася ў снег...

Яна ўсхліпвала ўвесь час, пакуль мы аглядалі дыхтоўныя, з моцных бярвёнаў, хаты, дзе, па версіі рэканструктараў, месціліся сам штаб, шпіталь, друкарня, побач — лясная школа... Усё гэта нагадвала хутчэй базу адпачынку. Але на парозе «штаба» нас чакаў ягоны сапраўдны падчас вайны начальнік, у «шпіталі» — той самы хірург, у «друкарні» — той самы наборшчык, у «лясной школе» — тая самая настаўніца. Нават мужыкі, што варылі ў вялізным катле бульбу і ахалоджвалі ў снезе бутлю з мутнаватым самагонам, абодва былі з колішніх партызанаў.

Немка працягвала бязгучна рыдаць.

Я прыабняў яе за плечы. І раптам пачуў нешта нечаканае — страшнаватае і зусім не гэдээраўскае: «Яны... яны жывыя... А мой татачка...»

І яна зноў захлынулася нябачнымі слязьмі.

Мабыць, упершыню я хутчэй адчуў, чым зразумеў, якая ненатуральная для чалавека і чалавецтва гэтая з'ява — вайна. Але ж коціцца смяротным колам праз лёсы, пакаленні, стагоддзі...

Дык мо натуральная?

Што ж натуральнага ў тым, калі адных вайна пакідае жывымі, а іншых малоціць ушчэнт?! Не, заставацца на вайне жывым зусім ненатуральна. Адно, што можа зрабіць вайну натуральнай, — усеагульная пагібель, усеагульнае заканчэнне жыцця на Зямлі.

Вось я і думаю: што ж фальшывага ў дзіцячых гульнях дарослых? А тое, думаю, што яны ствараюць ілюзію натуральнасці войнаў. То бок таго, што чалавецтву без самазабойства не жыць.

...Аляксандр Гардон, расійскі тэлевізійны гуру, пытаецца ў нябачнага апанента: «А ці памятаеце вы, як у дзяцінстве гулялі ў вайну, у «немцаў» і «рускіх»?» І выцягвае аднекуль з недасяжных глыбінь інтэлекту выснову: «Вось і вы, украінцы, цяпер немцы для нас...»

Такая вось вайскова-гістарычная рэканструкцыя.

*kamerton_41@mail.ru*

# Ці вяртаюцца ў Беларусь сучасныя Скарыны?

Адказваюць **беларускія юнакі і дзяўчаты**, якія скончылі Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт і польскія ВНУ.

**Ян Арлоўскі**

*Варшаўскі політэхнічны ўніверсітэт (Варшава, Польшча). Спецыяльнасць: «электраэнергетыка».*



«Яшчэ месяц таму я планаваў працаваць у Мінску на новаўтвораным дзяржаўным прадпрыемстве. Аргументы «за» былі: добры заробак (амаль як у Польшчы), цудоўныя людзі (у мяне раптам з'явілася шмат сяброў у Мінску), прыгожы горад. І праект планueцца вельмі сучасны, удзел у ім — вялікі гонар.

Аргумент «супраць»: я не веру беларускай уладзе. Сёння я зараблю 1500$ у рублёвым эквіваленце — і я «пан», а заўтра дэвальвацыя (як заўсёды «неспадзяваная») — і я жабрак. Па-другое, мяне хвалююць перспектывы. У Беларусі, мне здаецца, што, пачаўшы ад 1500$, можна зарабіць яшчэ +30%, але гэта ўжо столь. А ў Польшчы гэтай столі няма — грамадства так збудавана. І я магу зарабіць больш, калі буду працаваць і імкнуцца да гэтага. І галоўная рэч, якой я не вытрымаў — гэта атмасфера ў грамадстве і штодзённым побыце ў Беларусі. Людзі вельмі часта гавораць пра грошы.

Таму я вярнуўся ў Варшаву, знайшоў хутка працу. Спадабалася, што мяне прынялі за мае веды, а не за дыплом ці іншыя «паперкі». Спадабалася перспектыва заробкаў, больш спакойная атмасфера ў грамадстве, магчымасці развіцця. Непакоіць, канечне, пенсія, і адчуваю недахоп маіх беларускіх сяброў...

Таму, на мой погляд, выбіраючы паміж Беларуссю і Польшчай, прыходзіцца выбіраць паміж людзьмі і заробкам».

**Яня Макарская**

*Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт (Вільня, Літва). Спецыяльнасць: «медыя і камунікацыі: візуальная культура».*

«Цяпер я працую праектным менеджарам у мінскай крэатыўнай



кампаніі. Я вярнулася ў Беларусь, каб трохі папрацаваць, набрацца досведу, давучыць другую замежную мову, каб потым з упэўненасцю паступаць у нямецкую ВНУ ў магістратуру.

Хачу жыць у Германіі. Бо жыла ў гэтай краіне, бо там сябры, бо проста люблю гэтую краіну, і мне там камфортна. Ці змагу я там пражыць усё жыццё — пакуль сказаць не магу».

**Рыма Цясоўская**



*ЕГУ (Вільня, Літва). Спецыяльнасць: «культурная спадчына і турызм».*

«Я скажу так: універсітэт мой называўся «Еўрапейскім», а любові прышчапіў да роднай краіны больш, чым мясцовы прышчапляе сваім студэнтам. Я паглядзела на сваю краіну з іншага ракурсу.

Зараз працую па спецыяльнасці ў беларускай турфірме. І планую заўсёды жыць тут, у Беларусі. А на будучыню ў мяне мара — адкрыць сваю турфірму і рабіць нестандартныя і тэматычныя туры (каб нашы людзі больш даведваліся аб святах іншых народаў)».

**Марына Пятрова**

*ЕГУ (Вільня, Літва). Спецыяльнасць: «культурная спадчына і турызм».*





Яня Саленік.

Я правучылася 2 гады ў БДУ на спецыяльнасці «міжнароднае права». Зразумела, што зусім не маё. І паступіла зноў на спецыяльнасць «культурная спадчына і турызм» у ЕГУ. У мяне тады ўжо была праца, сям'я. Таму пытанне пра ад'езд за мяжу не ставілася. Дый не было якіх-небудзь прапаноў для працы за мяжой, а ў Мінску я працавала ў кампаніі з выдатным калектывам.

Я хацела б пажыць у Еўропе. У Англіі ці Францыі, напрыклад, бо і ведаю мовы, і ёсць знаёмыя ў гэтых краінах. Але канкрэтнай мэты пераехаць за мяжу ў мяне няма. Усё будзе залежаць ад далейшай эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў Беларусі».

**Аркадзь**

*Універсітэт імя Лазарскага (Варшава, Польшча). Спецыяльнасць: «турызм і менеджмент».*



«Шчыра кажучы, у Польшчы не нашмат лепш, чым у нас. Калі ўжо жыць ці працаваць за мяжой, дык трэба імкнуцца ехаць на захад, у Германію, Францыю, можа, Вялікабрытанію. Прычым, загадзя вывучыўшы патрэбныя мовы. Гэта маё меркаванне, да таго ж, польскі дыплом цэніцца ў краінах ЕС.

А сам я з-за сямейнага бізнэсу застануся ў Беларусі, працягваць бацькоўскую справу. Ды і мне здаецца, што дзе б колькі ні плацілі і што б ні прапаноўвалі, усё роўна заўсёды будзе цягнуць на бацькаўшчыну».

**Яня Саленік**

*ЕГУ (Вільня, Літва). Спецыяльнасць: «культурная спадчына і турызм».*

«Я планую знайсці працу ў Беларусі, а праз год-паўтара — з'ехаць. Можа, у Еўропу, можа, у Амерыку. Прычына гэтаму — рэжым. Не вельмі хочацца аддаваць амаль увесь заробак на харчаванне.

Я — рэаліст. У Еўропе хапае і сваіх праблем з узроўнем беспрацоўя і г.д. І з раскрытымі абдымкамі нас там не чакаюць. Таму я не паехала спрабаваць сябе за мяжой адразу. Усе ж чалавеку патрэбен працоўны досвед.

Калі зменіцца ўлада і калі мая кампетэнтнасць будзе на патрэбным узроўні, я, можа, і вярнуся, каб дапамагчы краіне развіцца».

**Віялета Герасенка**

*ЕГУ (Вільня, Літва). Спецыяльнасць: «тэорыя і практыка сучаснага мастацтва».*

«Мой дыплом дае магчымасць працаваць у культурных арганізацыях, музеях, фондах, прыватных галерэях, аўкцыённых дамах і ў мас-медыя. Але цяпер я — прадавец у краме тавараў для творчасці ў Мінску.



Па маёй спецыяльнасці ў Мінску не знайшлося здавальняючых варыянтаў. А ў Еўропе працу я не шукала — яшчэ паспею».

**Павел Шапецька**

*Універсітэт Казіміра Вялікага, Быдгашч, Польшча. Спецыяльнасць: «мехатроніка».*



«Я планую вярнуцца ў Беларусь, толькі не цяпер, а праз пару гадоў, бо спадзяюся атрымаць пасведчанне на права жыхарства ў Польшчы, каб больш не думаць пра візы. Увогуле, я мару пра мабільнасць, каб ездзіць як мага больш па свеце, але ж асноўнае сваё жыццё я ўяўляю ў Беларусі. Усё ж такі ў Мінску я правёў большую частку свайго жыцця».

**Гутарыў Улад Швядовіч**

# Беларускі вундэркінд Караткевіч стаў наймацнейшым праграмістам на Google Code Jam

Беларус Генадзь Караткевіч перамог у міжнародным спаборніцтве па праграмаванні Google Code Jam. Прызавы фонд за першае месца склаў 15 000 даляраў.

У фінале бралі ўдзел 26 чалавек з усяго свету. Агулам у чатырох анлайн-раўндах удзельнічалі 20000 праграмістаў.

Для Караткевіча гэта першая перамога на спаборніцтве ад Google, бо па правілах мерапрыемства ўдзельнікі павінны быць паўналетнімі.

Але гэта не першая перамога беларускага вундэркінда ў міжнародных спаборніцтвах па праграмаванні. 1 жніўня ў Берліне Генадзь перамог у «Яндэкс. Алгарытм — 2014».

**Tut.by**



# Шчыгрынавая скура

Айцец **Сяргей Сурыновіч** у Друі служыць са змяшанымі пачуццямі: ён вартаўнік вялікай спадчыны, але што ў будучыні?

У Друю прыязджаем пад 23-ю вечара. Каля кляштара нас сустракаюць айцец Сяргей Сурыновіч і ягоная аўчарка Абрэк. Пёс радасным скачком валіць мяне на зямлю.

Гаворка пра беларушчыну, лёсы Касцёла і касцёла доўжыцца за поўнач.

Друя не такая і вялікая, хоць і насычаная сэнсамі. За Дзвіной — ужо Латвія. Piedruja, а па-нашаму — Прыдруйск. Абапал мяжы жывуць такія ж беларусы.

У Друі дагэтуль суіснуюць каталікі, праваслаўныя і стараверы. Раней жылі яшчэ яўрэі, ад іх засталіся вялізныя могілкі і будынкі.

Але сапраўды асаблівае значэнне Друя мае ўсё ж для каталікоў. Тут быў вялікі кляштар — калісьці бернардынаў, а ў 1924—1938 у ім служылі марыяне. Гэта быў адзіны беларускамоўны каталіцкі асяродак у той час. Пакуль палякі не выслалі манахаў з памежнай зоны. Як ненадзейных — беларусы ж.

Цяпер святар у Друі адзін.

«Наша Ніва» ўпершыню пісала пра ксяндза Сяргея Сурыновіча 14 гадоў назад, калі ён служыў на Урале і марыў вярнуцца ў Беларусь. У Расіі Сурыновіч адслужыў 6 гадоў. Спачатку як дыякан у Краснадары, дзе быў армянскі прыход. Пасля святаром у Пярмі. Прыход быў шматнацыянальны: рускія, палякі, літоўцы, латгальцы, беларусы. Вяртаўся ў Беларусь з Калінінградскай вобласці, дзе служыў у літоўскіх прыходах у самім Калінінградзе і Савецку (колішнім Тыльзіце, які ва ўсіх асацыюецца з часамі Напалеона).

Там, у Расеі, каталікоў адзінкі. Айцец Сяргей кажа, што праца там навучыла «індывідуальнаму падыходу да чалавека, да яго асобы, зацікаўленасцяў, поглядаў».


Перад касцёлам у Друі.

«Вярнуўшыся ў Беларусь, я год служыў у Віцебску», — расказвае Сурыновіч.

Пасля была Браслаўшчына — далёкая і прыгожая. У Слабодцы закасаў рукавы і заняўся справай аднаўлення касцёла. «Касцёл сустрэў мяне абдзертымі вежамі і польскай мовай. Цяпер касцёл беленькі і ў ім гучыць беларуская мова», — кажа ён.


Скляпенні кляштара чулі Сіповіча і Кашыру.

### Накіраванне ад Чарняўскага

У Друю пачаў даязджаць увосені 2012 года. Пра Друю ведаў з юнацтва. Калі ад'язджаў на вучобу ў піцерскую семінарыю, ён атрымаў накіраванне ад айца Уладзіслава Чарняўскага з Вішнева — таго самага, які ў савецкі час быў адзіным прынцыпова беларускамоўным каталіцкім святаром, астатнія па-польску служылі.

«Прыязджаў у Вішнева, начаваў у яго, слухаў яго, сачыў за яго працай з перакладамі».

Дык вось, Чарняўскі пра Друю і расказваў. У Друі прайшла ягоная маладосць — з 1934 года ён навучаўся ў гімназіі, якая месцілася ў кляштары.

«Я ўжо з Друі быў сведамым, — гэта з успамінаў Чарняўскага. — Як калом увагналі, калі ксяндзоў-беларусаў вывозілі [палякі], усё гэта я перажываў. Таму не трэба мне ні гаварыць, ні вучыць пра беларускасць».

«Гэтыя словы айца Чарняўскага і яго беларускасць засноўвалі і ўва мне падмурак на далейшае жыццё», — прызнае Сурыновіч.

### «Першую ноч я не змог заснуць»

Прыход у Друі быў цалкам беларускі ад самага яго адраджэння ў пачатку 90-х. «Першую ноч я не змог заснуць, бо не верыў, што Провід Божы мяне накіраваў у Друю, у яе сцены».

Але прыход зусім малы, наракае ён.

**«Новай Друяй»**

біскуп Чэслаў Сіповіч называў бібліятэку імя Францішка Скарыны і беларускі цэнтр у Лондане. Яго пакаленне марыянаў «у эміграцыі Друяй жылі, пра гэтую Друю марылі, — расказвае Сурыновіч. — Для гэтых людзей Друя была вобразам беларускага свету».

«А дзе вялікі? — не пагаджаюся я. У Расонах, Лёзне, у Бегам'і вялікія? Там увогуле лічаныя вернікі».

«50 чалавек на святы прыходзяць на службу. І тыя пераважна старэйшыя людзі, каму за 70», — расказвае Сурыновіч.

«А можа быць, гэта проста заўжды так, што ў царкву, касцёл ідуць старэйшыя, калі задумляюцца пра зямное і незямное жыццё?» — пытаюся я.

«Бяда ў іншым: нашыя вёскі выміраюць, — расказвае айцец Сяргей. — Служачы ў Слабодцы, я кожны год хаваў каля пяцідзесяці чалавек. Моладзь з'язджае ў гарады, хаты пусцеюць». «Усё часцей пішу ў парафіяльнай картатэцы — вёска вымерла. Гэта палохае».

### Вялікая мінуўшчына

Статыстыка пацвярджае: у Друі сто гадоў таму жыло 6000 чалавек. У 1970-м — 2500. Сёння — тысяча.

Айцец Сяргей перажывае. І гэта на самым паўночна-заходнім краі Беларусі, дзе яшчэ і вёска мацнейшая, і каталіцкая традыцыя не перарывалася ніколі.

У Друйскай гімназіі, што месцілася ў кляштары, вучыліся будучыя гісторык Ермаловіч, мастак Жаўняровіч, генерал ордэна марыянаў, заснавальнік бібліятэкі імя Скарыны ў Лондане, біскуп Часлаў Сіповіч, ксёндз—доктар філасофіі Тамаш Падзява. З Друяй цесна звязаныя былі гістарычныя святары Ільдэфонс Бобіч, Фабіян Абрантовіч, Язэп Германовіч, Андрэй Цікота, бласлаўлёны пакутнік Юрый Кашыра... (Кашыра быў з праваслаўнай сям'і, але пайшоў у марыяне, і калі немцы палілі Росіцу, пайшоў у агонь разам са сваёй паствай.)

У Друі служаць і сёстры-еўхарысткі. Друя, дарэчы, была калыскаю гэтай кангрэгацыі. У 1923 біскуп Юры Матулевіч заснаваў новую жаночую кангрэгацыю Сёстраў Служэбніц Ісуса ў Еўхарыстыі. Яны тут выжылі нават у савецкі час. Хаваліся, але служылі патаемна. І вось цяпер іх тут тры застаецца. Яны жывуць цераз дарогу ад касцёла.

А што ж робіцца там, дзе традыцыя меншая?

Касцёл яшчэ жыве з адчуваннем моцы ў вялікіх гарадах. Там ёсць «крытычная маса». А вось святары ў райцэнтрах і вёсках адчуваюць сябе вартаўнікамі бастыёнаў.

### А ты адзін з сабакам

Бастыёны велічныя, але як даць рады іх захаванню, калі ты адзін, з сабакам, а ў цябе прыход — 50 бабулек?

«Са складанага — гэта стан касцёла і кляштара, — расказвае Сурыновіч. — Трэба тэрмінова ратаваць».

Пафарбавалі — ізноў палез грыбок. Дзе пабялілі — там не пайшоў. Дзе акрылавыя фарбы — цвіль. Рэстаўратары кажуць, што сырасць паўзе з падмуркаў. Іх трэба сушыць. А гэта каштуе дзясяткі тысяч еўра. Такіх грошай няма.

Друя прыцягвае, яна натхняе, яна насычае беларускім духам. Сюды едуць пілігрымы. На жаль, сярод іх пакуль няма мільянераў.

У савецкі час у кляштары было ПТВ. Сутарэнні замуравалі. Нешта там парушыла бомба ў вайну. Хоць і высокая гара, а сырасць. Проста так фундаменты не правентылюеш, не прасвідруеш —



У Друі ў 1970-м жыло 2500 чалавек. Сёння — тысяча.



# вёскі і касцёла



**Сяргей Сурыновіч**
нарадзіўся 13 красавіка 1976 у вёсцы Лугамавічы, Іўеўскі раён Гродзенскай вобласці.

яны тоўстыя, да двух метраў. Як з гэтым разабрацца?

Дзяржава не дапаможа. Ёсць сотні помнікаў у горшым стане.

Руіны, бывае, развальваюцца. А тут ёсць дах, няма расколінаў. Проста паўзе цвіль, паўзе з-пад зямлі гэтая зялёная, бурая цвіль.

## Пад псеўданімам Бартніцкі

Айцец Сяргей ад будзённасці ратуецца творчасцю. Ён піша вершы пад псеўданімам Яўген Бартніцкі і малюе: «Я заўсёды ўглядаў у творчасці шляхі да Бога».

«Пісаць пачаў у часе вучобы ў Гродзенскай духоўнай семінарыі. Там пазнаёміўся з Данутай Бічэль — далікатнай, інтэлігентнай. Свой вольны час, калі была магчымасць выйсці ў горад, я праводзіў у музеі Максіма Багдановіча, дзе яна працавала ў тыя часы загадчыцай».

Калі вучыўся ў Санкт-Пецярбургу, выдаваў там пабеларуску газету «Крыніца».

Жывапіс — аматарскія спробы пачаліся ў майстэрні ўкраінскай пейзажысткі Міраславы Казанцавай. «Яны вылліліся ў шэсць персанальных выставаў», — з гонарам прызнаецца айцец Сяргей.

Таксама айцец Сяргей удзельнічае ў групе спецыялістаў, што працуюць над поўным перакладам Бібліі на беларускую мову.

Гэтая група паўстала дзякуючы ініцыятыве доктара тэалогіі Ірыны Дубянецкай. У ёй і біблісты, і перакладчыкі, і мовазнаўцы, і спецыялісты па класічнай філалогіі... Добрай пляцоўкай для сумеснай працы стаў Міжнародны кангрэс даследчыкаў Беларусі, які штогод праходзіць у Коўне.

Сурыновіч распачаў пераклад Септуагінты — гэта Стары Запавет на грэцкай мове. Такая праца заўсёды супольная, да яе далучаюцца людзі з прафесійным валоданнем мовы, але таксама і з глыбокай верай.

## І аўтограф гімна

А таксама ён збірае — карціны, памяткі, дакументы.

«У маёй прыватнай калекцыі каля двухсот працаў, большасць — Яна Антонавіча Рыдзікі», — расказвае Сурыновіч.

Вось ружанец Язэпа Германовіча — ксяндза і пісьменніка, вядомага пад псеўданімам Вінцук Адважны.

Асцярожна, з пяшчотай дастае айцец Сяргей з альбома аўтограф гімна «Магутны Божа» рукі Наталлі Арсенневай. Асобныя словы ў ім яшчэ адрозніваюцца ад кананічнага варыянта.

А вось паштоўкі, якія атрымлівалі ў 1920-я і 30-я марыяне. Ад братоў, выхаванцаў — з Парыжа, Рыма... Ён знайшоў іх сярод смецця ў Друі, у прамым сэнсе слова. Сярод іх паштоўкі, напісаныя беларускай лацінкай з Рыма, падпісаныя айцом Юрыем Кашырам.

«Усё мае адну мэту — стварэнне ў друйскім кляштары музея. У гэтым таксама зацікаўлены мой біскуп Алег Буткевіч, які выказаўся за тое, каб стварыць у Друі музей усёй Віцебскай дыяцэзіі», — расказвае Сурыновіч.

Але для каго будзе той музей, калі ён сам прызнае, што парафія вымірае?

Пытанне.

## Для пілігрымаў, мусіць

Увогуле, што галоўнае для святара ў сітуацыі вымірання супольнасці, у якой ён служыць?

Пратэстанцкія пастары і праваслаўныя бацюшкі пражываюць гэтую сітуацыю па-іншаму. У іх сем'і. Сем'і трэба карміць. Значыць, перадусім трэба працаваць — на зямлі, у бізнэсе.

Ксяндзы сем'яў не маюць. Таму яны па-іншаму ўспрымаюць новую рэчаіснасць.

Сёння часта пакідаюць святарства менавіта пробашчы малых парафій. Іх ламае навакольная бесперспектыўнасць, так мне думаецца. Уявіце сабе сітуацыю — у цябе гіганцкі храм і ўсё сыплецца, а людзей няма і ніякіх рук не стае.

Сурыновіч шукае аптымістычныя словы, але гэта хутчэй стаіцызм: «Я і не ўмею ўжо па-іншаму, як толькі быць часткаю гэтага Касцёла і яму належаць».

Ён прыйшоў у касцёл з пакаленнем адраджэння — нацыянальнага і рэлігійнага.

«Так, мае бацькі і дзяды былі праваслаўнымі, — расказвае ён. — Я ахрышчаны таксама ў праваслаўнай Царкве. Аднак абраў святарства ў Каталіцкай Царкве. Цяжка растлумачыць прычыны, я іх проста не ведаю. Бог так пакіраваў. Святар гэта не прафесія, святар — стыль жыцця, пакліканне».

**Андрэй Дынько,**
**фоты Сяргея Гудзіліна**



«Мясцовыя людзі неймаверныя. Столькі дабрыні, столькі цяпла, столькі беларускасці. У Друі ўсё вельмі проста: праваслаўныя — рускай веры, стараверы — маскальскай (на Браслаўшчыне маскалямі традыцыйна клічуць стараверау). А каталікоў цяпер называюць «беларускае веры», бо ў касцёле гучыць выключна беларуская мова».

### Бліц



**Што Вы робіце, калі ўначы ў Ваш кляштар грукаюцца на выгляд злачынцы?**

Адчыняю дзверы.

**Калі Вам цяжка, Вы...**

Малюся.

**Калі Вам добра, Вы...**

Працую.

**Кім працавалі Вашы бацькі і дзяды?**

Бацькі — настаўнікі. Маці — матэматыкі, бацька — гісторыі. Бабуля і дзед па бацьку таксама настаўнікі. Дзед нарадзіўся ў Навагрудку і там скончыў ліцэй імя Адама Міцкевіча, бабуля з Любчы.

**Жыццёвы дэвіз?**

Шукаць Бога і шукаць для Бога — абраў яго перад рукапалажэннем у святары.

**Самы памятны дзень?**

Экзамен у семінарыі ў Гродне.

**Любімы колер?**

Цёмна-сіні.

**Любімая кветка?**

Касачы.

**Калі б прэзідэнтам былі Вы, то што Вы зрабілі б найперш?**

Дамогся прызнання несапраўдным рэферэндуму 1995 года.

**Мінск для Вас — гэта...**

Край свету, адкуль можна выпісаць добрыя кніжкі.

**Вільня для Вас — гэта...**

Сталіца, беларускі горад.

**Віцебск для Вас — гэта...**

Горад Шагала, горад майго вяртання ў Беларусь.

**Што Вы купляеце ў краме кожны раз?**

Тварог, садавіна, агародніна, хлеб.

**Якія словы з Бібліі Вы нагадалі б чытачам НН сёння?**

«І ўбачыў Бог, што святло прыгожае. І аддзяліў Бог святло ад цемры». Быцця 1,4.

### Жарт

Пані Янінка са Слабодкі, дзе раней служыў айцец Сяргей, ксяндза павучала:

— Ксёндз, ці ведаеш, чаму смерць худая ходзіць?

— Не, не ведаю.

— Бо хабару не бярэ, а вось доктар наш пузаты ходзіць...

# Тапанімічная недарэчнасць

**Адкуль у Оршы вуліца Пагранічная і што за вуліца 1 Жніўня? Піша Віктар Лютынскі.**

Гарадская тапаніміка — адлюстраванне гісторыі горада, народа і дзяржавы. Але ў гады савецкай улады ў ёй столькі наварочана, што разграбаць давядзецца яшчэ доўга. І Орша не з'яўляецца нейкім выключэннем. Як і паўсюль, у цэнтры — камуністычны «іканастас». Абавязковыя Маркс з Энгельсам, Ленін і бальшавікі меншага калібра.

Кароткі перыяд дэсталінізацыі ў пачатку 1960-х гадоў прыбраў з мапы горада імёны «правадыра ўсіх народаў» (бетонныя помнікі Сталіну былі тады разбіты і сцягнуты бульдозерамі ў яры на беразе Дняпра, яшчэ нядаўна пад адным з мастоў тырчала з глею пала шыняля генералісімуса), ягоных верных саратнікаў — Кагановіча, Варашылава, Жданава.

Першыя гады незалежнасці таксама пакінулі свае адмецінЫ ў назвах вуліц. Вярнуліся з нябыту назвы Дамініканская і Ільінская, з'явіліся вуліцы Уладзіміра Караткевіча, Адама Міцкевіча, Язэпа Драздовіча.

Ёсць у горадзе назвы вуліц у гонар розных савецкіх святаў. Назвы 1 Мая ды 8 Сакавіка не выклікаюць пытанняў. Назва вуліцы 11 Ліпеня таксама не ўнікальная. Дзень вызвалення Мінска ад так званых белапалякаў у 1920 годзе быў важнай датай БССРаўскага календара ў даваенны час. Назва вуліцы з'явілася ў гады беларусізацыі, таму на рускамоўных мапах і цяпер даецца па-беларуску.

А вось вуліцы 1 Жніўня, здаецца, няма нідзе ў Беларусі, а мо і ў свеце. Адна з самых кароткіх вуліц горада (метраў 300) была названа... у гонар дня пачатку Першай сусветнай вайны.

З'явілася такая назва дзесьці ў 1920-х гадах. Хоць потым вайну, якую да Кастрычніцкай рэвалюцыі называлі ў Расіі Вялікай Айчыннай, аддалі амаль поўнаму забыццю. Тым не менш, бальшавікі лічылі яе каталізатарам рэвалюцыйнага руху і без чалавека з ружжом, безумоўна, уладу б не захапілі.

Вуліца 1 Жніўня пры павароце ля Аршанскага дзяржаўнага механіка-эканамічнага каледжа пераходзіць у вуліцу Пагранічную. Гэтая назва таксама з даваеннага часу і невыпадковая — менавіта па ёй праходзіла ў 1918 годзе мяжа паміж тэрыторыяй, захопленай кайзераўскай Германіяй, і тэрыторыяй, якую кантралявала тады Савецкая Расія.




У даваенны час вуліцы былі пад прыватнай забудовай. Побач з імі на высокім пясчаным узгорку ў 1942 годзе акупанты заклалі т.з. «Могілкі Герояў», дзе было пахавана больш за 3 тысяч нямецкіх салдат і афіцэраў, якія загінулі на Усходнім фронце. Гэтыя могілкі пазначаны на нямецкай мапе, зробленай у красавіку 1944 года. Захавалася і некалькі фотаздымкаў пахаванняў на іх.

Пасля вайны тэрыторыю перапланавалі: «зніклі» могілкі (спачатку быў тут «Зеленгас», цяпер — сярэдняя школа, дзіцячы сад і сацыяльны прытулак). Старадаўняя вуліца Шклоўская стала пачаткам праспекта Тэкстыльшчыкаў, які вядзе да льнокамбіната. Менавіта гэта частка горада забудоўвалася ў 1930-я і наступныя гады як жылы пасёлак гэтага буйнога прадпрыемства. Былі знесены ў 1940—1960-х дамы па вуліцы 1 Жніўня. Нарэшце, у 1970—1980-я на ёй былі пабудаваны ўсяго тры, але дзевяціпавярховыя, дамы.

Працуючы ў каледжы, размешчаным літаральна на гэтай вуліцы, каго з жыхароў ні пытаў пра яе назву, дакладнага адказу ніколі не чуў. Магчыма, сёлета, калі 1 жніўня ва ўсім цывілізаваным (і не вельмі) свеце ў гэты дзень адзначаліся 100-я ўгодкі з дня пачатку Першай сусветнай вайны, назва вуліцы, магчыма, і пачала асацыявацца ў месцічаў з гэтай датай.

Хочацца спадзявацца, надыдзе час, калі вуліцы майго роднага горада (як і тысячы вуліц у іншых беларускіх месцах) вернуць сабе свае спрадвечныя гістарычныя назвы. А вуліцы з шаблоннымі і штучнымі назвамі атрымаюць новыя, адпаведныя гісторыі і культуры горада, яго тапаграфіі. Назвы, якімі будуць ганарыцца іх жыхары і захапляцца госці горада.

*Орша*

## Буду размаўляць па-беларуску!

Я заключыла дамову з «Гроднаводаканалам» на ўстаноўку лічыльнікаў вады. Дамову склалі на рускай мове. Я напісала заяву, што хачу мець дакументы па-беларуску. Атрымала адказ, што па-беларуску я разлічваць на гэтыя дакументы не магу.

Беларуская мова дзяржаўная, але ў рэальнасці я з ёй не маю аніякіх правоў.

Не магу атрымаць жыроўку па-беларуску, не магу набываць тавары, каб цэтлікі і апісанне было па-беларуску, не магу глядзець беларускае тэлебачанне, бо амаль усё па-руску там, няма ў кінатэатарах фільмаў з перакладам па-беларуску. Ды нават калі гавару па-беларуску, то рускія па нацыянальнасці (яны адразу называюць сваю нацыянальнасць!) называюць мяне нацыяналісткай, бандэраўкай, бэнэфаўкай, палячкай і г.д.

Што мне рабіць? Гаварыць па-беларуску заўжды буду і скрозь!

**Л.Блохава, Гродна**

Гавораць дзеці

## «Калі б я не змог злезці з дрэва, я б ажаніўся з вавёркай»

Напаткаў свае старыя нататкі, калі я запісваў перлы сына Богуша. У свой час афарызмы маленькага сыночка я сабраў у эсэ «Тата, ты папа?». Але нешта засталося за кадрам. Вось некаторыя з гэтых дзіцячых мудрасцяў (Богушу 3—4 гады).

Убачыўшы, як птушкі кахаюцца —«птушка птушцы дапамагае яйка знесці».

Убачыў у тэлевізары эратычную сцэну і кажа: «Дзядзя і цёця мыцца пайшлі» (цяпер чытаю і з жахам думаю: «Божа, ён ужо ў тры гады ўсё разумеў»).



У краме Богушу сумна. Ён сядае на панэль, бярэ з вітрыны цэннік, чапляе яго сабе на куртку і кажа: «Купіце гаварашчага хлопчыка, купіце гаварашчага хлопчыка!»

Ну і самае парадаксальнае: «Калі б я не змог злезці з дрэва, я б ажаніўся з вавёркай».

**Віталь Цыганкоў, Facebook.com**

Спадчына

## Хто такі той Міхаіл Калеснік?

У 2006 годзе па просьбе Ганны Суднік-Матусевіч я падключыўся да вывучэння могілак XIX–XX ст. у вёсцы Дзягільна, што каля Койданава (цяпер Дзяржынск). Мясцовыя жыхары называюць могілкі Старымі (Панскімі). У другой палове XIX ст. на могілках хавалі прадстаўнікоў роду Янушкевічаў. Сярод нябожчыкаў Адольф Янушкевіч (1803–1857) — удзельнік паўстання 1830—1831 гадоў, аўтар выдатных падарожных нататкаў і нарысаў пра казахаў сярэдзіны XIX ст. За ўдзел у паўстанні А.Янушкевіч быў сасланы ў Сібір (знаходзіўся ў выгнанні з 1832 да 1856). Многія яго лісты былі надрукаваныя пасля смерці і выйшлі асобнай кніжкай спачатку ў Парыжы (Żywot Adolfa Januszkiiewicza i jego Listy ze stepów kirgizkich. T.2. Paryż, 1861), а затым у Берліне (Żywot Adolfa Januszkiiewicza i jego Listy ze stepów kirgizkich. Wydanie II, t.2. Berlin, 1875). Могілкі амаль знішчылі пасля апошняй вайны. Яны зараслі лесам. У выніку археалагічных пошукаў на месцы могілак удалося знайсці некалькі пахаванняў, у тым ліку прадстаўнікоў роду Янушкевічаў, маёнтак якіх знаходзіўся ў Дзягільне. Сярод знаходак 2006 года — замшэлы надмагільны камень з кірылічным тэкстам па-беларуску. Камень шэры і плоскі, груба апрацаваны. На сплошчанай паверхні прасочваецца надпіс, не ўсе літары і асобныя словы якога можна прачытаць (гл. фотаздымак). Каліграфія нагадвае школьныя прапісныя літары. Яны прадрапваліся альбо нечым больш высякалі непрыстасаваным для такой працы інструментам. Такое непрафесійнае напісанне можна часта бачыць на нашых старых вясковых могілках. Над тэкстам прадрапаны чатырохканцовы крыж. Надпіс, у якім не ўсе літары добра чытаюцца, наступнага зместу:

Міхаіл
Васілевіч
Калеснік
Ж 79 + (?)J(?) 1882 год

З тэксту вынікае, што камень усталяваны на магіле Міхаіла Васілевіча Калесніка, які жыў (?) 79 гадоў і, напэўна, памёр у 1882 годзе (?). Цяжка паверыць у тое, што гэтае каменнае надмагілле магло з'явіцца ў канцы XIX ст., адразу пасля смерці чалавека. Каліграфія і беларуская кірыліца дазваляе дапусціць, што камень маглі ўстанавіць толькі ў XX ст., найбольш верагодна, у 1920-я гады. З гэтай нагоды ўзнікае наступная версія. Камень мог паставіць адзін з нашчадкаў Міхаіла Калесніка. Не выключана, што каменем ён пазначыў пахаванне, на якім стаяў драўляны крыж і які к таму часу спарахнеў. Знайсці адказ на пытанне і дакладна вызначыць, хто і калі ўсталяваў надмагілле па-беларуску на могілках у Дзягільне, можна, напэўна, толькі пасля таго, як знойдуцца нашчадкі Міхаіла Васілевіча Калесніка. Цікава таксама, хто такі Міхаіл Васілевіч Калеснік?


Камень на старых «панскіх могілках» у Дзягільне каля Койданава.

**Мікола Крывальцэвіч, археолаг, Мінск**

## Мой топ-10 твораў беларускай літаратуры

Неяк так сталася, што школьнікі не чытаюць. Нават вершы. Часта сутыкаюся з адказам — «літаратура нецікавая». Перагледзеўшы прапанаваную міністэрствам праграму, адзначыла, што ў адказе «нецікавая» ёсць доля праўды.

Агулам, зашмат сялянскага, замала гарадскога. Але і ў дэталях ёсць пытанні. Экзістэнцыяліст Быкаў падаецца як пісьменнік выключна ваеннай тэматыкі. «Новую зямлю» Якуба Коласа чытаюць урыўкамі з пятага па дзявяты клас. А раманы «Каласы пад сярпом тваім» Караткевіча і «Сэрца на далоні» Шамякіна — часткамі! А заданні для дзясятага класа кшталту «прачытаць 3—5 вершаў» якога-небудзь аўтара выглядаюць жартам.

А вось топ-10 твораў, якіх у праграме няма, а яны таго вартыя.

1) У.Караткевіч. Верш «На Беларусі Бог жыве».
2) Янка Купала. Верш «А хто там ідзе?» (дарэчы, гэты верш, як і вядомае коласаўскае «Мой родны кут, як ты мне мілы!..», у праграме я адшукала пад словамі «і іншыя вершы аўтара па выбары настаўніка»).
3) У.Арлоў. Кніга «Краіна Беларусь».
4) І.Абдзіраловіч. Эсэ «Адвечным шляхам».
5) Ф.Аляхновіч. П'еса «Чорт і баба».
6) Н.Арсеннева. Верш «Магутны Божа».
7) Ю.Станкевіч. Аповесць «Любіць ноч — права пацукоў».
8) М.Багдановіч. Верш «Пагоня».
9) В.Ластоўскі. Аповесць «Лабірынты».
10) А.Сыс. Верш «Песня пра каханне».

Аднак на гэтым жаданне складаць не знікла. І я задумалася пра тое, якія творы зрабілі б папулярнай родную літаратуру для грамадства ўвогуле.

Атрымаўся топ-10, які павінен прачытаць кожны беларус.

1) В.Ластоўскі. Аповесць «Лабірынты».
2) В.Быкаў. Аповесць «Сотнікаў».
3) А.Разанаў. Вершаказы.
4) Я.Баршчэўскі. Кніга «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях».
5) Ю.Станкевіч. Аповесць «Любіць ноч — права пацукоў».
6) І.Шамякін. Раман «Сэрца на далоні».
7) Якуб Колас. Паэма «Новая зямля».
8) Янка Купала. П'еса «Паўлінка».
9) У.Караткевіч. Аповесць «Ладдзя Роспачы».
10) У.Караткевіч. Раман «Каласы пад сярпом тваім».

Зразумела, я спрацiла задачу. І спіс такіх аўтараў, насамрэч, бясконцы. Але пачніце чытаць. Вам спадабаецца!..

**Настасся Смірнова, студэнтка Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Скарыны**

# Нататкі рэзервіста

Як служылася? Расказвае **Аляксандр Пятроўскі.**

*Усе падзеі, імёны і прозвішчы ў аповедзе мо і не выдуманыя, а супадзенне з існым верагоднае і невыпадковае, але айтар не прызнаецца, бо крымінальнай адказнасці ў нас ніхто не адмяняў.*


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Я трапіў на службу ў рэзерве без хабару і блату. Вайскоўцы-чыгуначнікі палічылі за лепшае не браць «свядомага». Маўляў, у іх часці я буду першым беларускамоўным жаўнерам. Не спадабалася афіцэру-«купцу» і мая прыхільнасць да паганства («некрасіво звучит»), і тое, што ў анкеце напісаў пра ліберальна-дэмакратычныя погляды. «А знаеш, хто такі Казулін і дзе ён знаходзіцца? — пытаецца «купец». (На той момант экс-кандыдат у прэзідэнты сядзеў у турме.)

Спаслаўшыся на пункт «улік волі прызыўніка», афіцэры «папрасілі» мяне адмовіцца ад тэрміновай службы ў чыгуначных войсках. Тым больш, што тэхнічнай адукацыі ў мяне няма. Кажу купцу наўпрост: «Хочаце пачуць маё «не»?» Той толькі хітнуў галавой і з палёгкай дадаў: «А мы папросім нашага маёра, каб запісаў цябе на службу ў рэзерве». З трэцяй групай здароўя я чамусьці не адпавядаў патрабаванням службы ў мабільных войсках, а вось на чыгунцы — калі ласка! Мабыць, каб здароўе паправіць...

## 200 чалавек за 10 хвілін

Прыгоды пачаліся ў цягніку, на якім мы ехалі ў аблваенкамат. Цвярозы выгляд маіх спадарожнікаў засмуціў маёра, які дарэмна шукаў у нашых валізах алкаголь. Праўда, у мой заплечнік не палез, сказаў, што «настаўнік кантрабанду не вязе». Горлаў знайшоў выйсце. Ён пайшоў у наступны вагон і вярнуўся праз паўгадзіны заўважна весялейшы.

Абласны цэнтр сустрэў дажджом і пранізлівым ветрам. Нібы з лета патрапіў у слотную восень. У ваенкамаце прызыўнікоў чакаў медагляд: двесце чалавек за 10 хвілін. Мы ішлі, як на канвееры. Потым чакалі на вуліцы, ад дажджу хаваліся пад навесам. З абеда неба развіднелася, зазяла сонца і, самае галоўнае, напоўніцу працаваў буфет, дзе прадавалі гарбату і піражкі з павідлам. Мабыць, нашае майно і зачынілі на складзе, каб даць буфету план, бо такой чаргі тут не будзе да наступнага прызыву!

Потым прызыўнікоў пашыхтавалі і пачалі размяркоўваць па пунктах прызначэння. З пафаснымі прамовамі выступілі афіцэры і праваслаўны святар. Апошні абдаў нашы цывільныя шыхты асвечанай вадой з мясцовага водаправода. Падчас гэтага чароўнага абраду я прыгадаў, як у Сярэднявеччы царква дабраслаўляла крыжовыя паходы на забойства ў імя «слушнай» веры... Традыцыя і сучаснасць. І сапраўды, як можа змяніцца час, калі людзі засталіся такімі ж?!

Ваенкамат запомніўся гармідарам і неарганізаванасцю. Выязджалі а сёмай вечара, прыехалі ў частку Z. а дзявятай.

## Боты

...Пра вайсковую службу ў народзе кажуць: забралі ў боты. Вось і я атрымаў на складзе кірзачы. «Будзеце таптаць боты, іх на складзе яшчэ год на пятнаццаць хопіць», — сказаў прапаршчык. Боты доўга разношваюцца, таму ў першыя ж дні страявой падрыхтоўкі з'яўляюцца мазалі на пятах. Прынамсі ў тых, хто не навучыўся як след накручваць анучы. Звычайная карціна: узвод на плацы адбівае крок, а ззаду плятуцца салдацікі ў сланцах з забінтаванымі нагамі. Дзікая муштра пакліканая за месяц, які застаецца да прысягі, навучыць прызыўнікоў прыгожа хадзіць у шыхце. А праз паўгода службы змучаныя ботамі салдаты набываюць берцы. Праўда, нямногія: па-першае, начальства не ўхваляе парушэння «адзінаабразія», трэба спецыяльны дазвол, а па-другое, большасць не мае сродкаў не тое што на берцы, а нават на зубную пасту. «Дзяды» казалі нам, рэзервістам: «Вы можаце прывезці берцы, але раім па адбоі класці іх у ложак, бо скрадуць».

У першы вечар падчас сталавання адзін прапар параіў з'есці ўсё смакоцце, прывезенае з дому — лядоўняў для салдацкай еміны няма. Таму раю зашмат у дарогу не браць, давядзецца або раздаць, або выкінуць. Першы адбой запомніўся даўжэзнымі чэргамі ў прыбіральні: чатыры кабінкі і восем рукамыйнікаў не разлічаны на адначасовы попыт роты прызыўнікоў. У другой палове казармы, як нам патлумачылі, прыбіральня была зачыненая на рамонт.

## Асаблівасці вайсковай гігіены

На другі дзень нас вазілі ў лазьню, дакладней, намёт-душ, дзе мы змылі апошні цывільны пыл. Калі апранулі форму, сталі як дзве кроплі вады падобныя адзін да аднаго.

Вечарам сяржанты вучылі нас майстэрству прышываць падкаўнерыкі. Яны спрачаліся паміж сабою, бо, праслужыўшы паўгода, ніхто не ведаў, як шыць слушна. Навошта гэта рабіць, калі лепш штодзень адшараваць мылам шыю?! Тлумачу для несвядомых: першая неабходнасць падшывы — не забрудзіць каўнер гімнасцёркі, другая і яна ж найпершая —салдат мусіць быць увесь час нечым заняты, каб не думаць, таму што ў войску табе не трэба думаць. Тут за цябе думаюць ротны, камбат, зампаліт і безліч іншых разумнікаў.

Дзяды штовечар не падшываюцца, ім статус дазваляе, але не статут (правяраюць звычайна «моладзь»). Тое ж заўважаю і за афіцэрамі. Новы, чысты падкаўнерык — святое, калі заступаеш у нарад днявальным (своеасаблівая тэхнічка-вахцёрка). Нельга выглядаць абы-як, бо ў начальства будзе лішняя нагода дачапіцца, ды і перспектыва атрымаць нарад па-за чаргой за брудны падкаўнерык не прываблівае. Зрэшты, для зачэпкі дастаткова й кепскага настрою, быў бы чалавек...

Наша лазня рамантавалася, як і другая прыбіральня ў казарме. Таму на восьмы дзень службы мы ідзём мыцца ў суседнюю частку Б. Да яе напрасткі, праз поле, блізу пяці кіламетраў. Яшчэ да выправы высвятляем, што салдаты тэрміновай службы і назад вярталіся пешшу. Узнялася хваля абурэння: у чым сэнс мыцца, калі назад прыйдзеш брудны ад пылу? «Сэнс вы зразумееце на восьмым кіламетры!» — адказаў п'яны маёр А. Але знайшоўся цвярозы ва ўсіх сэнсах чалавек, бо назад мы вярталіся на машыне. У кодабе камаза адчуваў непараўнальны кайф, нават больш, чым ад струменяў вады, што астуджвалі цела пасля дзённага сквару. Вецер праз дзіравы брызент дзьме ў твар, блакіт неба цешыць вока, прабіваюцца сонечныя промні. Файна! Найлепшае ўражанне ад першых дзён у войску.

...За два дні да прысягі —чарговая лазня. Туды і назад прывезлі на машыне. Але ў душы спачатку была толькі гарачая вада, амаль кіпень, а потым халодная. На такое мыццё для роты было адведзена дваццаць(!) хвілін. Здзекі ды і толькі. Новае споднее выдалі цэлае, бо папярэдняе было быццам пабітае шрапнеллю.

## «Усё, адстраляліся!»

...Да прысягі большасць часу прызыўнікі займаюцца страявой падрыхтоўкай. Хто маршыраваў на плацы па 4—6 гадзін у дзень, добра памятае, як ныюць пасля ногі. Двойчы на нашых занятках прысутнічалі штабныя, якія доўга раіліся, як мы мусім ісці падчас прысягі. Давялося нарэзаць па плацы больш за дзесяць колаў з аўтаматамі, халера іх бяры! Натуральна, у казарму мы вярнуліся мокрыя, хоць выціскай. Добра, што на дварэ лета і можаш абмыцца ля рукамыйніка халоднай вадой.

Практыкаванні на плацы — тыповая муштра, даніна часу. Усё дзеля таго, каб цягам пяці хвілін прагрукаць ботамі перад кіраўніцтвам часці, якое сузірае спектакль з трыбуны, нібы генералісімус на прапсекце Пераможцаў.

«Усё, адстраляліся!» — пранеслася ў галаве, калі наш узвод пад гукі «Развітанне славянкі» пакідаў плац. Бацька аднаго з сапёраў зазначыў, што ішлі мы, рэзервісты, нават лепш за афіцэраў, якія выносілі сцяг брыгады: «У мой час за такі вынас сцяга ім бы ногі паадрывалі».

## Многа начальнікаў

...Пасля прысягі нас не сталі часцей прыцягваць да левай працы. Па ранішнім разводзе асобныя групы салдат разбіраюцца прапаршчыкамі, штабнымі або іншымі афіцэрамі. Мы пачасту хадзілі ў парк, дзе касілі траву, збіралі галлё, нацягвалі дрот.

«Служым Рэспубліцы Беларусь!» — неяк паўжартам сказаў рэзервіст Ш.

Праца не заўсёды была ў напругу. Летам выйсці за КПП прыемней, чым сядзець у казарме.

Нават самая багатая і хворая фантазія не склала б на пустым месцы столькі показак пра войска. Большасць з іх — праўда. Раз наш узвод прыйшоў у лес ставіць агароджу для арсенала. Пакуль укопвалі слупы і нацягвалі дрот, паліваў дождж. Змоклі да майткоў, бо ніхто і не падумаў выдаць нам палаткі-накідкі. Па абедзе сохнем у казарме. Прыходзяць мінамётчыкі й распавядаюць, як па загадзе нейкага «палкана» разбіралі плён нашых самаахвярных і тытанічных высілкаў. Яму не спадабаўся няглеглы выгляд агароджы. А ноччу Ужо ноччу пры асвятленні фар наноў ставілі агароджу салдацікі тэрміновай службы.

І так на кожным кроку. Калі хадзілі ў лясок нацягваць масеткі, дык адну сетку скручвалі і разбіралі некалькі разоў, перш чым афіцэры прыйшлі да згоды і вырашылі маскіраваць-такі машыну. А ўсё праз тое, што ў войску шмат начальнікаў. Што каму заманецца, тое і выконвае салдат.

*Працяг будзе.*

## ФУТБОЛ

### БАТЭ — «Слован»




**26 жніўня на «Барысаў-Арэне»** пройдзе матч плэй-оф Лігі чэмпіёнаў паміж БАТЭ і славацкім «Слованам». Пераможца трапіць у групавы турнір Лігі чэмпіёнаў. Матч пачнецца а 21:45. Білеты ад 70 да 200 тысяч рублёў.

### «Дынама» — «Насьёнал»

**21 жніўня на «Барысаў-Арэне»** пройдзе першы матч плэй-оф Лігі Еўропы паміж мінскім «Дынама» і партугальскім «Насьёналам». Пачатак а 20-й. Білеты — ад 30 да 100 тысяч рублёў.
Таксама ў гэты дзень у Галандыі салігорскі «Шахцёр» згуляе з ПСВ з Эйндховена. Пачатак а 22-й.

## БАСКЕТБОЛ

### Беларусь — Бельгія

**24 жніўня ў Палацы спорту (пр. Пераможцаў, 4)** пройдзе адборачны матч да Еўрабаскета-2015. Нашы хлопцы прымаюць бельгійцаў. Пачатак а 16-й.

## ФЭСТЫ

### Magnificat-2014

**Дзясяты раз у Беларусі** пройдзе Міжнародны каталіцкі фестываль хрысціянскіх фільмаў і тэлевізійных праграм «Magnificat». З 24 да 28 жніўня ў Мінску і Глыбокім будуць паказаны 43 кінастужкі з 16 краін свету.

### «Кліч Палесся»

**Міжнародны фестываль этнакультурных традыцый «Кліч Палесся»** пройдзе 23 жніўня ў аграгарадку Ляскавічы Петрыкаўскага раёна Гомельшчыны. У гэтым годзе ён упершыню набыў статус міжнароднага. Для ўдзелу ў форуме запрошаны творчыя калектывы, майстры і рамеснікі з Расіі, Украіны, Малдовы. Традыцыйна тут выступяць і самадзейныя артысты, народныя ўмельцы беларускага Палесся.

### Рэмара

**«Рэмара» — гэта мультыкультурны моладзевы фестываль,** які пройдзе ў форме намётавага лагера з 21 па 24 жніўня на хутары Шаблі (Валожынскі раён). Фэст разлічаны на 151 удзельніка. Яго галоўнай мэтай з'яўляецца прыцягненне ўвагі моладзі да важных сацыяльных праблем у беларускім грамадстве.

### Фестываль агню

**23 і 24 жніўня на ракаўскім стадыёне** пройдзе Міжнародны фестываль агню, на ім выступяць найлепшыя тэатры агню Беларусі, Украіны і Расіі. Пачатак выступаў а 20-й.

### Тэатр ценяў

**23 жніўня ў дзіцячым забаўляльным цэнтры Kazki аквапарку «Лебядзіны» (пр-т Пераможцаў, 120)** пройдзе выступ «Тэатра ценяў», а таксама майстар-клас для бацькоў і дзяцей. Пачатак а 13-й.

## КАНЦЭРТЫ

### Re: Live

**21 жніўня ў клубе Re: Public (пр-т Прытыцкага, 62)** у межах праекта Re: Live «Old School Minsk» выступяць: : B: N:, IQ48, Pomidor / OFF. Білеты — 50 (папярэдне), 80 тысяч (у дзень канцэрта).

### Мутнаевока

**Канцэртны сезон гурту «Мутнаевока» распачынаецца 28 жніўня ў клубе «TNT» (Рэвалюцыйная, 9).** Прагучаць пераважна песні з альбома «Дзень Незалежнасці».







### Фэст «Кераміка Крэва»

Мерапрыемства адбудзецца ў мястэчку Крэва Смаргонскага раёна 23 жніўня з 15 да 23. Уваход вольны.
На фэст «Кераміка Крэва» запрошаныя найлепшыя майстры керамічнай справы з усёй краіны. На свяце керамікі будзе працаваць дзіцячая пляцоўка, на якой занятак па душы сабе знойдуць маленькія мастакі. Святочную атмасферу створаць музыкі і этнафолькавыя гурты. Гасцей чакаюць рыцарскія забавы, звон мячоў, сярэднявечная музыка, танцы і яшчэ шмат цікавостак да позняга вечара.

## ВЫСТАВЫ

### Кубак Чапскага

**Да 31 жніўня ў Доме-музеі І з'езду РСДРП (пр-т Незалежнасці, 31а)** працуе выстава «Кубак Чапскага», якая прымеркавана да дня нараджэння Карла Чапскага 15 жніўня. На выставе будуць паказаныя калекцыі піўных этыкетак, коркаў, падставак, куфляў, якія адносяцца да гісторыі півавараэння ў Беларусі, а таксама краін Еўропы (Чэхіі, Германіі, Бельгіі).

### Я шлях, якому век няма спакою

**Да 13 верасня Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы (Купалы, 4)** запрашае на выставу «Я — шлях, якому век няма спакою…», якая знаёміць з асобай паэта, яго жыццём і творчасцю ў гады Першай сусветнай вайны (1914–1918). На выставе можна ўбачыць аўтографы перакладаў твораў Янкі Купалы на рускую мову, зробленыя Валерыем Брусавым у Вільні, нумары газеты «Наша Ніва» з белымі плямамі, якія сталі знакам гуманістычнай пазіцыі аўтараў і яе рэдактара — Янкі Купалы.



## КІНО

### Пенсіянеры супраць ноу-хау

Нястрымныя-3
**Жанр:** баявік, трылер, прыгоды
**Рэжысёр:** Патрык Х'юз
**У ролях:** Сільвестр Сталонэ, Джэйсан Стэтхэм, Мэл Гібсан, Харысан Форд, Антоніа Бандэрас, Дольф Лундгрэн, Арнольд Шварцэнэгер, Джэт Лі, Келан Латс
ЗША, Францыя, 126 хв.

Барні, Крыстмас і астатнія члены каманды падчас чарговай аперацыі сутыкаюцца з Конрадам Стоўнбэнксам, які шмат гадоў таму заснаваў разам з Барні каманду «Нястрымныя» і лічыўся загінулым. Цяпер Конрад гандлюе зброяй і з'яўляецца тым самым чалавекам, якога Барні было даручана забіць. Стоўнбэнкс паставіў сабе мэту ліквідаваць «Нястрымных». Барні вырашае, што ў гэтай барацьбе «свежы» падыход можна супрацьпаставіць старым метадам, і папаўняе шэрагі маладзейшымі байцамі, тэхнічна больш падкаванымі. Новая місія пераатварэецца ў сутыкненне паміж прадстаўнікамі старой школы і экспертамі ў высокіх тэхналогіях.
Баявік, які напоўніцу эксплуатуе класіку жанру, раней выязджаў за кошт акцёрскага складу і падтрымання духу гэтай класікі, губляе адваяваныя першай і другой часткамі пазіцыі. Вартыя ўвагі хіба што вядомыя Сталонэ, Шварцэнэгер і Стэтхэм, сцэны з якімі нязменна глядзяцца з цікавасцю, бо распрацаваныя з чаканым гумарам. Набор «маладняка» не надаў фільму крамянасці, новым персанажам катастрафічна не хапае харызмы (сярод іх можна ўбачыць Келана Латса, зорку няўдалага «Геракла: Пачатак легенды» (2013)). Стужка адыходзіць ад заяўленай класікі з вядомымі пенсіянерамі жанру і ператвараецца ў сярэдненькі баевічок, якіх процьма здымаецца ў Галівудзе.
Аднак яшчэ да выхаду трэцяй часткі было заяўлена, што гледачоў чакае сіквел «Нястрымныя-4».

**Настасся Уласава**



# Кагальны роў, Спасава слабада, сцяна-брандмаўэр

Юнакі з «Талакі» **праводзяць экскурсіі** па Гомелі на беларускай мове.



Гомельская «Талака» арганізавала першую няпешую экскурсію па Гомелі. Удзельнікаў чакалі надвячоркам 16 жніўня каля помніка «містару Не» — Андрэю Грамыку. Чакалі не толькі арганізатары, але і міліцыя. Пачынаўся дождж, а яшчэ праваахоўнікі з пытаннямі надакучвалі. «Хто даў дазвол, гэта масавае мерапрыемства, дзе арганізатар, каго нам пасадзіць за гэта, пакажыце пашпарты, ці не крадзеныя ровары?»

Пакуль міліцыя высвятляла, «хто вы такія, хто ў вас галоўны», кампанія раварыстаў хутка падзялілася на групы і раз'ехалася па чатырох маршрутах. Намеснік старшыні «Талакі» Марыся Тульжанкова раздала ўдзельнікам карты Гомеля. Да яе тут жа падскочыў міліцыянер: «Што вы тут раздаяце, а дайце і мне тое, што вы раздаяце!» — «Ды гэта проста мапа Гомеля!» — «А дайце паглядзець яе, дайце і мне!» — настойваў міліцыянер. Бачыце, якая цікаўнасць у нашых міліцыянераў да роднага горада ,да гісторыі!

Тым часам я пакутліва разважаю: па якім маршруце ехаць? Іх чатыры. «Стайні князя Паскевіча», «Могільнік рачной славы Гомеля», «Містычнае гарадзішча радзімічаў», «Гарадскія легенды». Выбіраю наступны пададыход. Ад спорту далёкі чалавек, ды і ровар пазычыла ў суседа, таму мне б куды лягчэйшай дарогай, на кароткую адлегласць. І не зганьбіцца перад іншымі ўдзельнікамі — каб не прыйшлося задыхацца, круцячы педалі, і крычаць наўздагон: «Эй, пачакайце мяне!»

Першы прыпынак. Кагальны роў. Называўся так таму, што тут жылі габрэі, орган самакіравання ў якіх — кагал — і даў назву месцу. На пачатку XX стагоддзя насельніцтва Гомеля на 44% складалася з прадстаўнікоў «выбранага народа». Тут, на экскурсіі, я некалькі разоў пачула словазлучэнне «габрэйская беднната». Бывае і такое, аказваецца. Як і тое, што на рэспектабельнай цяпер вуліцы Пушкіна, дзе ў савецкі час сялілася партыйная наменклатура, жылі ў XIX стагоддзі розныя крымінальныя элементы і жабракі, такі быў Гарлем, нават паліцыя баялася наведвацца ў той раён. Прынамсі, як і на вуліцу, дзе я жыву цяпер.

Наступны прыпынак — гістарычны раён Спасава слабада. Тут жылі стараабрадцы. Тут жа захавалася драўляная Ільінская царква. Экскурсавод не абышоў увагай службовае начальніцкае жытло ў маляўнічым месцы. Па легендзе, тут жыў некалі былы мэр Гомеля, які зараз змяніў адрас месца жыхарства на больш лаканічны з паметкай «папраўчая калонія №, атрад №». Але гэта легенда. Можа, і не было ніякага мэра і не жыў ён тут.

Гісторыя апошняй вайны — гэта легендарная сцяна-брандмаўэр на вуліцы Пляханава. На сцяне захаваліся надпісы, датаваныя 1944 годам ці 1941 — цяжка разабраць на чырвонай цэгле. «Враг будет разбит!» — сцвярджаюць аўтары надпісу. Кажуць, гэта былі савецкія ваеннапалонныя, якіх тут утрымлівалі ў часы Вялікай Айчыннай. Сцяну гэтую, дарэчы, цяперашнія ўлады хацелі знесці. Але патрыятычныя гамельчукі адстаялі яе.

У канцы экскурсіі арганізатары пачаставалі ўсіх гарбатай і бутэрбродамі і падарылі нататнікі тым, хто прыхапіў з сабой і мэтава выкарыстаў фотаапарат.

Задаволенымі засталіся і тыя, хто наведаў містычнае гарадзішча радзімічаў і занядбаны суднарамонтны завод. Праўда, тыя, хто рушыў на містычнае гарадзішча, прыехалі пазней за ўсіх астатніх. Было ўжо неяк страшна за іх. Усё-ткі гарадзішча ж — містычнае!

Я не здзіўляюся, калі чую ад некаторых насельнікаў горада над Сожам: «Не люблю Гомель!» Канечне ж, вы маеце рацыю. Бо немагчыма любіць тое (таго, тую), чаго не ведаеш. Але некалькі цікавых экскурсій — і горад паўстае не як хаатычны набор шэрых будынкаў, а як жывое стварэнне са сваёй гісторыяй, спадчынай, чорнымі і белымі плямамі, загадкамі і містыкай.

**Юлія Шымкевіч, Гомель**

**In memoriam**

## Памёр выдавец «Курьера из Борисова» Анатоль Удавічэнка

Анатоль Удавічэнка пайшоў з жыцця 12 жніўня. Яму ішоў **56-ы год**.


Аляксандр Зянкоў

«З сыходам Анатоля Васільевіча, Толі, Толіка, нечакана стала пуста. Калі сыходзяць такія людзі, пустэчу адчуваеш на фізічным узроўні.

У ім ніколі не адчувалася нянавісці, жоўці, нават калі з ім абыходзіліся жорстка, не палюдску. У 1996 годзе Анатоль Удавічэнка заснаваў незалежную газету «Курьер из Борисова», якая назаўжды застанецца ў гісторыі рэгіёна як самая прафесійная, яркая і адважная.

У 2005 годзе яе закрылі як непажаданую — «супярэчыла дзяржаўным інтарэсам». Зачынілі бесцырымонна. Аднак усе тыя, хто калісьці працаваў пад кіраўніцтвам Анатоля Васільевіча, лічаць гэты перыяд, перыяд працы побач з ім самым лепшым у сваім жыцці.

Таму што не магло быць дрэнна, калі быў Удавічэнка. Ягоная невераегодная ўсмешка, ягонае цяпло, ягоная гатовасць прыйсці на дапамогу падкупілялі. З ім заўсёды было вельмі надзейна і камфортна.

4 гады таму лекары паставілі Анатолю Васільевічу страшны дыягназ — рак. Але з якім гонарам і спакоем ён трымаўся! Нават такі жорсткі прысуд не змог сцерці з твару гэту незабыўную ўсмешку.

Ён назаўжды застанецца з намі. Шкада толькі, што ўжо не абняць яго і не пачуць...» — узгадвае Анатоля Удавічэнку галоўны рэдактар «Курьера из Борисова» Людміла Атчанашанка.

**Прэс-служба БАЖ**

## Нобель: Алексіевіч і Бяляцкі зноў у фаварытах

Найбуйнейшыя букмекерскія канторы свету адкрылі лініі на ўладальнікаў сёлетняй Нобелеўскай прэміі, якая будзе прысуджаная праз два месяцы, у кастрычніку.

Стаўкі на Нобелеўскую прэмію па літаратуры прымаюць адразу чатыры канторы. Ва ўсіх лідарам працягвае заставацца японец Харукі Муракамі, стаўкі на яго прымаюцца з каэфіцыентам 4 да 1. Муракамі не першы год з'яўляецца намінальным лідарам букмекерскіх кантор, але ўзнагарода дастаецца іншым літаратарам.

Год таму каэфіцыенты зашкальвалі на пісьменніцу з Беларусі Святлану Алексіевіч. За пару дзён да ўручэння Алексіевіч увогуле выйшла на першае месца. У выніку прэмія была аддадзеная канадцы Эліс Манро. Варта адзначыць, што яшчэ ні разу не было, каб Нобелеўскую прэмію па літаратуры два гады запар аддавалі жанчыне. Стаўкі на Алексіевіч роўныя 14 да 1.

На Нобелеўскую прэмію міра стаўкі прымае толькі адна кантора — Paddypower. Лідарам у іх з'яўляецца доктар-гінеколаг з Дэмакратычнай Рэспублікі Конга (былы Заір) Дэніс Муквеге — заснавальнік бальніцы для ахвяраў сэксуальнага гвалту (4 да 1).

У кастрычніку 2012 у яго кватэру ўварваліся ўзброеныя людзі, якія ўзялі ў закладнікі жонку і дачок Муквеге, а пасля яго прыходу дадому паспрабавалі застрэліць і самога доктара Муквеге, яго сям'ю выратаваў ахоўнік, які прыйшоў на дапамогу. Ахоўнік быў забіты, але вымусіў нападнікаў збегчы.

Былы палітвязень, праваабаронца Алесь Бяляцкі высока знаходзіцца ў спісе. Летась нарвежскія СМІ паведамлялі, што Бяляцкі застаўся за крок ад узнагароды, якую атрымала Арганізацыя па забароне хімічнай зброі.

Крыху вышэй за Бяляцкага ацэньваюцца шанцы расійскай «Новай газеты» (16 да 1). На другім месцы папа Францішак (4,5 да 1), на трэцім — амерыканскі грамадскі дзеяч Джын Шарп (8 да 1), аўтар кніг па негвалтоўнай барацьбе з аўтарытарнымі рэжымамі.

**Зміцер Панкавец**

## Памерла амерыканская актрыса Ларэн Бэкал

Яе дзед паходзіў **з беларускага Вішнева** і быў дзядзькам Шымона Перэса.

Амерыканская актрыса Ларэн Бэкал — адна з самых значных зорак ў гісторыі пасляваеннага кінематографа — памерла 12 жніўня ва ўзросце 89 гадоў ў Нью-Ёрку.

Яна нарадзілася ў 1924 годзе ў Нью-Ёрку і яе сапраўднае імя Бэці Джоан Перская. Яна — дачка яўрэйскіх эмігрантаў. Маці паходзіла з Румыніі (пасля разводу бацькоў Ларэн узяла прозвішча маці).

Бацька — Вольф Уільям Перскі — нарадзіўся ў Нью-Джэрсі, а ягоныя бацькі паходзілі з Вішнева (сёння — Валожынскі раён), а сама Бэці-Ларэн прыходзілася стрыечнай сястрой іншаму вядомаму ўраджэнцу Вішнева — 9-му прэзідэнту Ізраіля Шымону Перэсу.

Ларэн Бэкал пачынала кар'еру ў якасці мадэлі, у 19 гадоў зняласяразам са знакамітым акцёрам Хамфры Богартам, за якога неўзабаве выйшла замуж, у сваёй першай карціне «Мець або не мець» (1944). Потым была экранізацыя рамана Рэйманда Чандлера «Глыбокі сон» (1944), яна сыграла ў фільме Вівіян Стэрнвуд.

Таксама Бэкал знялася ў 1953 годзе з Мэрылін Манро ў фільме «Як выйсці замуж за мільянера». Пасля смерці Богарта ў 1957 годзе была заручана з Фрэнкам Сінатрам,



затым выйшла замуж за лаўрэата «Оскара» Джэйсана Робардса.

У 2009 Ларэн Бэкал была ўзнагароджана «Оскарам» за ўклад у развіццё кіно.

**Алег Гардзіенка**




**Вялікі партрэт Караткевіча намалявалі ў Рагачове ля цэнтральнай плошчы. Стварыў графіці мастак Алесь Контра пры падтрымцы мабільнай кампаніі Velcom.**



**За мінулы тыдзень у Мінску выпала месячная норма ападкаў, залева выклікала транспартны калапс.**

ЮРЫ МАЛЯРЭЎСКІ




**Вопратка з беларускімі арнаментамі заваёўвае Польшчу. Брэнд Xoroshe стварыла жыхарка Падляшша Магдалена Пятрук. Аўтары спадзяюцца на папулярнасць вопраткі не толькі сярод падляшукоў, палешукоў і беларусаў, але і сярод палякаў.**




**Мемарыяльную дошку Каралю Яну Чапскаму адкрылі ў Мінску. Барэльеф былога граданачальніка і мецэната ўпрыгожыў сцяну карпаратыўнага музея «Аліварыі». Аўтар твора — скульптар Павел Вайніцкі.**

БЕЛАПАН



## Анекдоты і жарты

* * *

Учора прачытаў чыйсьці святочны слоган «10 гадоў з вамі!», і адразу ўспомніў пра слоічак з гарчыцай, які захоўваецца ў мяне ў халадзільніку.

* * *

Хлопец галасуе на трасе. Спыняецца маленькая чырвоная машынка, і сімпатычная бландзінка пытаецца:

— Табе куды?

— У Гродна.

— Вось выдатна, мне таксама! Давай, хто хутчэй!? ..

І машынка зрываецца з месца.

* * *

Хачу навучыцца ўпадаць у спячку! Вось чаму людзі так рабіць не могуць?

Няма грошай, да зарплаты яшчэ цэлыя тры дні: а ты раз — і лёг спаць!

Пакуль выратавальная эсэмэска ад банка не прыйдзе...

* * *

У канвоі з расійскай гуманітарнай дапамогай.

«П...ц жара», — сказаў паддон з кансервамі.

«Хорошо хоть фура белая», — сказала дзіцячае харчаванне.

«Разговорчики в строю!» — крыкнуў спальнік.

* * *

50-ы год харчовага эмбарга Расіі.

Бабулька ў краме:

— У вас ёсць фінскі сервелат?

— Не.

— А нарвежскі ласось?

— Не.

— А малдаўскае віно?

— Не.

— А «Баржомі»?

— Не.

— А італьянскі пармезан?

— Не. Але і памяць у цябе, бабуля!

## «НН» сто гадоў з вамі

**З Вільні і Мінска выязджаюць туркі,** што працуюць у турэцкіх булачных. Як кажуць, гэты выезд звязаны з абвяшчэннем у Турэччыне мабілізацыі.

**«НН». №33. 1914.**

**Рэферэндуму — так!** «Рэферэндум аб трэцім тэрміне здольны надаць другое дыханне апазіцыі. Тады яна здолее адысці ад «лямпачак» да галоўнага палітычнага пытання, па якім яе пазіцыя супадае з думкай большасці беларусаў. А ў выніку гэтага рэферэндум можа дапамагчы апазіцыі «выцягнуць» і парламенцкую перадвыбарную кампанію — ператварыць яе ў агульнанацыянальную пад лозунгам «Не — трэцяму тэрміну», —маркуе палітолаг Віталь Сіліцкі.

**«НН». №31. 2004.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7100. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 19.08.2014.
Замова №3321.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

9 771819 161008 14031

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12